Канвенцыя аб біялагічнай разнастайнасці
Аўтапартрэт з вербалозных галінак
Каляндар Белавежскай пушчы: вясна
22красавіка Дзень зямлі

*З любоўю да ўлоння*

16 старонак
№2 (17)
Сакавік 1999

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета
Двухмесячнік

## Чытач – газета: анкета-99

Вітаю, паважаныя стваральнікі "Белавежскай пушчы"!

У падпісным каталогу ўбачыў назву Вашай газеты, якая мяне, так бы мовіць, зацікавіла па роду будучай дзейнасці. Атрымаў пакуль адзін нумар. Першае знаёмства яшчэ не дае падставаў для шырокіх абагульненняў. Аднак паспрабую адказаць на колькі пытанняў анкеты, якую Вы прапанавалі чытачам.

Шмат месца ў газеце адводзіцца сувязі чалавека з прыродай. Прычым, паказваецца пераважна эстэтычны бок узаемастасункаў. Гэта прываблівае ў першую чаргу. Тэксты суправаджаюцца файнымі здымкамі. Цікава чытаць таксама крытычныя заўвагі на адрас улады.

Любоў да Радзімы, ахова прыроды – галоўныя тэмы й таму хацелася б, каб яны раскрываліся глыбока і разнастайна.

Спадзяюся знайсці ў газеце матэрыялы




пра сённяшні стан ахоўных тэрыторый – запаведнікаў і нацыянальных паркаў, прачытаць падрабязна пра захаваныя прыгожыя мясціны Беларусі. Можна зрабіць і так: паказаць на прыкладзе, да якіх вынікаў прыводзіць неразумнае гаспадарчае выкарыстанне зямлі, прыродных багаццяў.

Мне 20 гадоў. Вучуся ў Магілеўскім дзяржаўным універсітэце імя А.Куляшова на прыродазнаўчым факультэце. Дома трымаю акварыум. Захапляюся турызмам, ландшафтазнаўствам. Здымаю краявіды.

Па Вашай просьбе прыкладаю фота з альбома.

Жадаю поспехаў!

**Аляксандр.**

Магілёў, 212017, а/с 1 "Біём"

*Працяг тэмы:* ***ст.10-11***

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс",*
*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

*Для кантактаў:*
*220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38-16*
*Тэл. (0172) 36-50-76, факс 220-23-53*

## Час палітычных нягодаў адыдзе, як брудны снег. Што застанецца пад ім?

ТЭМА НУМАРА

Чытачы газеты выказваюць заклапочанасць: біялагічная спадчына Беларусі, не ахаваная дэмакратычнымі нормамі дзяржаўнага кіравання, знаходзіцца ў небяспецы. Грамадскасці тым часам "прамываюць мазгі" рознай лухтою пра небывалыя поспехі ў экалогіі, казкамі пра будучыню беларускіх запаведнікаў, якія сёння кінуты пад ногі валютаздабытчыкаў.

Гэтакі ход падзей супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і заканадаўству краіны, а таксама шэрагу Канвенцый ААН, перш-наперш Канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці.



**Красавік. Столінскія балоты. На такавішча злятаюцца цецярукі, каб паказаць сваю моц і мужчынскую здольнасць. Прырода не памыляецца ў выбары, калі ёй не замінаць ды не квапіцца на яе адвечныя тэрыторыі жыцця і роду.**

**Удачы табе, цецярук! Хай будзе шчаслівай твая цецерка!**

*Фота:* ***Аляксандр Казулін***

## Хай дні прыбываюць надзеяй

**Радкі зверху моцна пацясніл мае "слова", таму буду сціслым. Сёння мне вельмі карціць сказаць пра адказнасць. Не чыю -небудзь, а нашу, сваю - канкрэтна газеты "Белавежская пушча".**

**За што? – спытаеце. За любнае слова да роднай прыроды. Рэч у тым, што Любоў, шчырая замілаванасць мусяць ісці поруч са словам праўды. Інакш - мы рызыкуем апынуцца ў ліку хлусаў, якія захапляюцца харастовм асобнага дрэва тады, калі нішчацца й выразаюцца суцэльныя лясы. Інакш – чалавек, які паверыў, зведае пасля боль і расчараванне. Гэта амаральна, нізка, нават жорстка. Менавіта гэтак і паводзяць сябе дзяржаўныя мужы ад экалогіі, якія страцілі пачуццё самакрытыкі і выпінаюцца дагадзіць, як таму генералу, рапартамі пра бліскучыя перамогі ў прыродаахове. Вочы грамадства ўсяляк адводзяцца ад вострых праблем навакольнага асяроддзя. Карыстаючыся амаль поўнай адсутнасцю грамадскага зялёнага руху, маўчаннем акадэмічнай навукі, бяздзейнасцю партыі зялёных, няўтольная вытворчая машына ва ўмовах рэжыму і бюракратычнай сістэмы з выглядам сытага ката даядае жар-птушку беларускай прыроды. І ніякія біятэхнічныя станцыі не змогуць затым яе вярнуць, наш беларускі дом катастрафічна беднее на адвечныя біялагічныя багацці.**

**Яшчэ адна вясна зазірае ў вочы беларусам. Яшчэ адзін сакавік абяцае нам абуджэнне, а красавік - надзею на ўсходы.**

**А там, не згледзіш, і травень... Хочацца верыць, што добрыя змены не за гарамі.**



*Валеры Дранчук*

## Удзячнасць- як прыклад грамадзянскай дыпламатыі

Нам стала вядома, што на імя в.а. Прадстаўніка ААН у Беларусі спадара Валерыя Ткачука перададзены ўдзячны водгук-ліст на папярэдні нумар нашай газеты. Нумар быў прысвечаны Дэкларацыі правоў чалавека, у прыватнасці, яе *трэцяму артыкулу*, што датычыць права на здаровае навакольнае асяроддзе. *"Нядаўна ўбачыў свет, — гаворыцца ў лісце, — чарговы нумар газеты "Белавежская пушча". Для нас, чытачоў і аўтараў выдання, ён стаў прыемным сведчаннем дзейнай прычыннасці высокага прадстаўніцтва да яго падрыхтоўкі і выпуску.*

*Выказваючы з гэтай нагоды сваё шчырае задавальненне, хацеў бы ад сябе асабіста, а таксама ад імя шматлікіх калег, удзельнікаў зялёнага руху Беларусі падзячыць Вас, Валерый Валянцінавіч, і ў Вашай асобе дапаможныя структуры і службы супольнасці за сумесную акцыю па распаўсюджанні ў Беларусі ідэй абароны навакольнага асяроддзя і ўстойлівага развіцця.*

*З найлепшымі пажаданнямі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі прафесар Мікуліч А.І."*

Са свайго боку, рэдакцыя расцэньвае ліст шаноўнага спадара Мікуліча як прыклад грамадзянскай дыпламатыі на карысць будучыні Беларусі. Мы спадзяёмся на плённае супрацоўніцтва з Прадстаўніцтвам Арганізацыі Аб`яднаных Нацый у Мінску. Беларусь падпісала шэраг Канвецый ААН і тым самым прыняла на сябе міжнародныя абавязацельства па іх выкананні. Аднак механізмы абнародвання і папулярызацыі як саміх дакументаў, так і напаўнення іх канкрэтыкай дзеянняў амаль адсутнічаюць. Тут, як кажуць, мёртвы сезон. І тэрміны не пазначаны.

Прадстаўніцтва ААН падтрымала ініцыятыву *БП* – зрабіць доступ грамадскасці да міжнародных пагадненняў і абавязацельстваў як мага шырэйшым, больш асэнсаваным і ўразумелым.

Доктар Мікуліч – гарачы прыхільнік усяго новага і лепшага *для Беларусі*, – засведчыў гэтую прычыннасць.

Маем за зручны выпадак паведаміць чытачам, што Аляксей Мікуліч у 1998 годзе стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі ў галіне навукі за цыкл прац па антрапалогіі *"Чалавек і яго біякультурная адаптацыя"*. З чым і віншуем аўтара і калегу.

# Вільготная ад расы нітачка павуціны не спыніць хаду бульдозера



***Анатоль Вярцінскі***

Вясновы закон

Закон адвечны і мудры:
калі сустрэнуць вясну,
жанчыны скінуць футры,
дрэвы накінуць ліству.

Будуць, па тым законе,
жанчыны нас хваляваць,
а дрэвы супакойваць,
думкі навяваць...

***Людвіг Уланд*****
*(1787-1862)*
*Нямеччына*

Ранішняя песня

Яшчэ пануюць змрок і сон,
Яшчэ маўчыць царкоўны звон,
Зязюля не кувае.

Яшчэ у лесе – цішыня,
Дзе сонна ціўкне птушаня,
Гушчар той гук схавае.

А я ўжо між палёў брыду
І гэту песню на хаду
Складаю і спяваю.

***Тацібана Акэмі*****
(1812-1868)
*Японія*

З цыкла “Маленькія радасці”

* * *

Як добра,
калі за акном у садзе
птушка з самага рання
голас вясны падае,
цешыць абноваю дня.

* * *

Як добра,
калі цёплы дзень выдаецца
і дацямна
восенню альбо вясною
блукаеш па чорных шляхах

***Стары Улас***
*(1865-1939)*

Сонейка прыгрэла...

Сонейка прыгрэла,
Растапіўся снег;
Поле зачарнела,
Ручаёк пабег.

Красачкі стракаты
Ўсюды зацвілі,
З песняю араты
Ўзяўся да зямлі.

Арэ, барануе
Родны свой загон
І трудоў не чуе,
І ні поту ён.

Сыпнула травіца,
Зелен кожны кут.
Урадзіць зямліца –
Вернецца за труд...
1909

***Карада Гавоні*****
*Італія*

Мілыя вобразы

Вясновы блакіт па нядзелях.
Снег на дамах белымі парыкамі.
Шпацыр амурны ўздоўж каналаў.
Дождж сакавіцкі стукоча
па шэрым даху.
Гліцынія ўверх па сцяне, квітнее.
Белыя шторкі на вокнах манахаў.
Звон суботняй вячэрні.
Свечкі, зацепленыя перад машчамі.
Ззянне люстэркаў у мностве пакояў.
Пунсовыя кветкі на белых абрусах.
Плямка чырвонага захаду
на мураванай сцяне.
Ружаў пялёсткі на ложках хворых.
Гукі раяля ў святочны дзень.
Недзе далёка чуваць зязюля.
Кошкі на падваконнях.
Белакрылыя галубы на дахоўцы.
Мальвы ў вазонніцах.
На царкоўных парогах ядуць жабракі.
Гаючыя лекі сонечных ваннаў.
Дзяўчынкі ў дзвярах прычэсваюць
сваё золата.
Жанчыны ў вокнах, спяваюць.

***Рыма Казакова****
*Расія*

Снег нетрывалы й беззаганны.
Прымяты цеплынёй цалік.
Апошнім снегам на палянах
Дзівосна ззяе сакавік.

Век снегу гэтакі бяспечны.
Так повен ён святла, дабра,
Што я ля снегу -- як ля печкі
Або, тым больш, як ля кастра.

Я радасцям, пацехам года
Вяду ў душы рахунак-лік.
Вучыцца мужнасці зыходу
Я ўсцяж іду праз сакавік.

А ў свеце – быццам на вакзале:
Абы туды й назад паспеў.
І плачуць светлымі слязамі
Сумёты каля хат і дрэў.

Усяму ўласціва нетрыванне,
Усё міне – і грэх, і смех,
А толькі ў векавое ззянне
Ўвасобіцца апошні снег.

***Райнэр Марыя Рыльке******
*(1875-1926)*
*Аўстрыя*

Пачатак кахання

О ўсмешка, першая ўсмешка, наша – твая, мая. Ўдыхаць духмянасць ліп і слухаць парк маўклівы... Раптам глянь у глыбіню вачэй і... усміхніся.

Ва ўсмешцы гэтай успамін пра зайца, што там, на ўлонні, бегаў па траве, — тады было яшчэ маленства ўсмешкі;

о ўсмешка руху лебедзя, якога угледзелі мы ў шэрані вячэрняй – на сажалцы прыцішанай, прымоўклай...

І верхавіны ў небе чыстым, вольным, яшчэ пакуль што не начным, не чорным, усмешкай цепляць вусны на аблічы зачараванай будучыні нашай...

***Генадзь Бураўкін***

***

Я ведаю адно: няма на свеце
Зямлі, дзе я хацеў бы вечна жыць,
Акрамя той, дзе сінія дасвецці
І чорныя пахілыя крыжы.

Яна даўно суседам абсмяяна
І моўчкі прыняла свой горкі лёс.
Ды толькі тут я яблыкаў крамяных
На ўсе гады наследнікам натрос.

Хацця на ёй саманадзейны гіцаль
Збіраецца да скону цараваць,
Я буду ёй прыслужваць і маліцца
І сцежкі ёй гатовы цалаваць...

***Кастусь Кірэнка***

* * *

І так было – ляцеў за межы,
Сігаў ажно за акіян.
Шукаў нянаскіх дзіў, бязмежжаў,
Чароўных лекаў, новых яў.

Якое шчасце, што сягоння
Той чадны пал перагарэў!
Якое шчасце – толькі помніць
Свае імёны, назвы дрэў.

Свой кветак пах, свой свіст птушыны,
Свой плёскат хваль між чарацін
Свой сонца ўсход – такі адзіны,
Свой кут жыцця – навек адзін.

***Ханс Бёрлі*****
*Нарвегія*

Развагі на лясной сцяжынцы

Чуеш: галадна вые
Сталёвы воўк – матапіла –
на схілах з рэдкімі кубаметрамі?

І над старымі балотамі, дзе такуюць
цецярукі,
над палігонамі ВПС пасярод вялікага
лесу
віжуе чацвёрка бліскучых знішчальнікаў
– віток за вітком?

Вось і ў гэтае блакітнае царства,
ў гэты ціхі ласіны атулак
уварваліся мільёны гукаў-шумоў.
Але хто маю роспач пачуе?
Куды мне падаць гэты смутак?

Вільготная ад расы нітачка павуціны
не спыніць хаду бульдозера.

Якая карысць ад няспешнай
хады маіх мараў
у такі непастрымны час
нецярпення, напятага ў сляпым
парыве?

Гісторыя больш не блукае пехам
па верасе,
яна лязгоча сталёвымі формамі
ў міжзорных напластаваннях
занадта высока
для майго зямнога сэрца,
што тахкае на стары манер
вечарамі сярод аціхлых елак
у лесе маёй самоты.

***Валеры Дранчук***

Дзецям унукам і прапра...

Толькі будзем помніць
пра...
паветра якім дыхаем

толькі будзем помніць
пра...
ваду якую п'ём

толькі будзем помніць
пра...
дрэва у ценях якога ходзім

толькі будзем помніць
пра...
траву якая і пасля нас
зелянець
павінна

***З народнага***

Ты, пчолка ярая...

Ты, пчолка ярая,
Ты вылець з-за мора,
Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя,

Адамкні лецечка
Лета цёплае,
Замкні зіманьку,
Зіму сцюдзёную!

*Пераклады на беларускую:*
* *Іван Івашка*
** *Валеры Дранчук*
*** *Васіль Сёмуха*
*** *Уладзімір Папковіч*

SUMMARY

**Spring motifs abound in this issue's poetry selection, interspersed with lyrical interpretations of environmental threats.**



*Фота: Лявон Кісялёў*

Нумар газеты прысвечаны Канвенцыі па біяразнастайнасці і выдадзены пры фінансавай падтрымцы Прадстаўніцтва ААН у Беларусі

**Чарговую** спробу абнародаваць міжнародны экалагічны дакумент варта пачаць з пытання: *дзеля чаго падпісваюцца Канвенцыі?* Рэдакцыя правяла маленькае даследаванне сярод шараговых грамадзянаў, знаўцаў і навучэнцкай моладзі і зрабіла на падставе адказаў колькі высноваў. Большасць рэспандэнтаў схіліліся да ацэнкі матываў, якімі пры гэтым кіруецца беларускі бок. Такім чынам, Канвенцыі па навакольнаму асяроддзю падпісваюцца (беларускім бокам), *каб...*

1. *далучыцца да намаганняў свету па абароне біясферных каштоўнасцяў (фармальна)*
2. *далучыцца да намаганняў свету па абароне біясферных каштоўнасцяў (і нешта рабіць самім)*
3. *атрымаць сродкі ці іншую дапамогу ад міжнароднай супольнасці*
4. *нейтралізаваць увагу беларускай грамадскасці да балючых праблем навакольнага асяроддзя*
5. *распаўсюджваць ідэі, якія маюць сусветны характар і спрыяюць устойліваму развіццю*
6. *карэктаваць прыродаахоўную палітыку дзяржавы*
7. *мацаваць волю грамадскасці ў разуменні праблем навакольнага асяроддзя і захавання зялёных каштоўнасцяў для наступных пакаленняў*

працяг ст. 4-5

# Канвенцыя

## Арганізацыі Аб‘яднаных Нацый *аб біялагічнай разнастайнасці*

падпісана ў 1992 годзе на Сустрэчы на вышэйшым узроўні *“Планета Зямля”*. Пасля гэтага яе ратыфікавала *171* дзяржава свету, у тым ліку *Беларусь*. Паводле Канвенцыі, краіны абавязаны **абараняць** *флору і фауну* праз захаванне сялібаў іх росту і месцаў жыхарства ўсімі магчымымі сродкамі, трымаючы на ўвазе, што знікненне відаў адбываецца пераважна *з-за дзейнасці чалавека*. Тэмпы стратаў, аднак, не змяншаюцца, яны па-ранейшаму вялікія, і *з кожным днём* усё большыя.




## SUMMARY

*This issue is devoted to the UN Convention on Biological Diversity, ratified by Belarus in 1993. Even now, Belarusian society knows next to nothing about this vital document, and the implementation of its obligations is being complicated by a political point - the absence of basic democratic standards for state management in Belarus today. This piece offers easily-digestible versions of the convention's articles and themes, whilst stressing the necessity to act concretely to complete the most urgent tasks, and use community efforts to preserve the nation's biological heritage. Also emphasised is the importance of Belarus being involved in creating a European environmental network of protected natural areas.*





## Фрагменты Прэамбулы,

**у якой дамоўныя бакі красамоўна сведчаць пра сваё разуменне праблемы і поўную гатоўнасць яе вырашаць**

**Усведамляючы** *нязменную каштоўнасць біялагічнай разнастайнасці, а таксама экалагічнае, генетычнае, сацыяльнае, эканамічнае, навуковае, выхаваўчае, культурнае, рэкрэацыйнае і эстэтычнае значэнне біялагічнай разнастайнасці і яе кампанентаў,*

*(...)*

**пацвярджаючы**, *што захаванне біялагічнай разнастайнасці ёсць агульнай задачай усяго чалавецтва,*

*(...)*

**пацвярджаючы таксама**, *што дзяржавы нясуць адказнасць за захаванне сваёй біялагічнай разнастайнасці і ўстойлівае выкарыстанне сваіх біялагічных рэсурсаў,*

**заклапочаныя тым**, *што біялагічная разнастайнасць істотна скарачаецца ў выніку некаторых відаў чалавечай дзейнасці,*

*(...)*

**адзначаючы,** *што неабходна прадбачыць, папярэджваць, ухіляць прычыны значнага скарачэння альбо страты біялагічнай разнастайнасці ў іхнім зародку,*

*(...)*

**адзначаючы** *далей, што галоўнаю ўмоваю захавання біялагічнай разнастайнасці з‘яўляецца in-situ экасістэмаў і натуральных месцаў сялібавання, падтрыманне і ўзнаўленне жыццяздольных папуляцыяў відаў у іх натуральных умовах,*

*(...)*

**прызнаючы** *вялікую традыцыйную залежнасць шматлікіх мясцовых суполак і карэннага насельніцтва, што перахоўваюць традыцыйны лад жыцця, ад біялагічных рэсурсаў, і жаданую перавагу выгадаў сумеснага карыстання, звязаных з выкарыстаннем традыцыйных ведаў, новаўвядзенняў і практыкі, якія маюць дачыненне да захавання біялагічнай разнастайнасці і ўстойлівага выкарыстання яе кампанентаў,*

**прызнаючы** *таксама жыццёва важную ролю жанчын у справе захавання і ўстойлівага выкарыстання біялагічнай разнастайнасці і пацвярджаючы неабходнасць поўнамаштабнага ўдзелу жанчын у выпрацоўцы і ажыццяўленні ўсямернай палітыкі, накіраванай на захаванне біялагічнай разнастайнасці,*

*(...)*

**поўныя рашучасці** *захаваць і на ўстойлівым грунце выкарыстоўваць біялагічную разнастайнасць у інтарэсах сённяшняга і будучых пакаленняў.*

*Знікненне*

За гады 1970-1995 людзі ўходалі і змарнавалі больш як 30 працэнтаў рэсурсаў планеты – траціну ўсіх натуральных запасаў.

*відаў*

*адбываецца*

Кожны год кантыненты трацяць 24 мільярды тон верхняга слою глебы; за два апошнія дзесяцігоддзі было згублена столькі, колькі ёсць яго ва ўсіх ворыўных землях ЗША.

*з-за*

Пачалі выміраць жывёлы і дрэвы.

*дзейнасці*

Робяцца непазнавальнымі краявіды.

*чалавека*

За колькі дзесяцігоддзяў чалавек глыбока змяніў разнастайную панараму жывога свету, якая складвалася на працягу дзесяткаў мільёнаў гадоў. За апошнія 100 гадоў вымерла сама меней 70 відаў сысуноў і гэтулькі ж відаў птушак.



Запасы Зямлі не бясконцыя.

*Плакат: Юры Дзееў*
*Фота: Аляксей Маrош*

# Еўропа — Беларусь: як захаваць прыродную спадчыну.

## Ад агульнай стратэгіі і перспектывы да канкрэтных дзеянняў



*Біялагічная і ландшафтная разнастайнасць — адно з найвялікшых багаццяў Беларусі*

Фота з архіва Аляксандра Гутоўскага

## Прычыны вядомыя. Што рабіць?

**Паводле ацэнак, ёсць некалькі прычын пагаршэння стану ландшафтаў і навакольнага асяроддзя на агульнаеўрапейскім узроўні.**

**Традыцыйная сельская гаспадарка спарадзіла** ***інтэнсіўнае земляробства*****, якое, дзякуючы спраўным супсідыям паскарае разбуральны працэс і ў рэшце рэшт моцна адбіваецца на сельскіх краявідах.**
**Відавочная арыентацыя** ***лясной гаспадаркі*** **на дамаганне найхутчэйшых эканамічных мэтаў зрабіла непазбежным скарачэнне відавога багацця лясоў.**

**Дзейнасць** ***прамысловых, транспартных, электраэнергетычных прадпрыемстваў*** **непасрэдна і стратна ўплывае на прыбярэжныя зоны, вялікія рэкі (узвядзенне плацінаў, пракладка каналаў) і горныя краявіды (сеткі дарог)**

**Масавы шматлюдны** ***турызм*** **нясе з сабой негатыўныя наступствы, перш-наперш адбіваецца на стане берагоў рэк і азёр, на якасці біякомплексаў.**

**На невысокім, як правіла, ўзроўні застаецца** ***ўразуменне праблем*** **навакольнага асяроддзя грамадскасцю і палітыкамі, што ў рэшце рэшт пазбаўляе шматлікіх магчымасцяў завярнуць разбуральны працэс.**



пачатак на стар. 3

**Да вынікаў бліц-даследавання, якія, вядома, не прэтэндуюць на глыбіню й вычарпальнасць ацэнак,** але даюць ці не поўны дабор магчымых характарыстык, варта дадаць наступнае. Пераважная большасць апытаных нават не чула пра тое, што ёсць міжнародныя дакументы па навакольнаму асяроддзю, згодна з якімі краіна мусіць праводзіць прыродаахоўную палітыку. Таму гэтая ж большасць выказвалася пасля грунтоўнай асветнай “наводкі”. Праўда, неяк цешыла тое, што многія (пераважна моладзь) адразу арыентаваліся ў лепшы, “правільны” бок, вызначалі матывы, так бы мовіць, у ідэале, забываючыся на рэальны бок справы, які вымушае выказвацца больш крытычна.

Што дзіўна, часам “ідэальныя” погляды супадалі з меркаваннямі людзей, добра дасведчаных у пытаннях навакольнага асяроддзя і дзяржаўнай палітыкі. Сярод апошніх, праўда, выявілася больш скептыкаў, якія ў падпісанні Канвенцый бачаць фармальнасць і “нейтралізацыю ўвагі грамадскасці”.

Што датычыць меркавання пра ўмацаванне волі, дык яна як бы абʼядноўвае ўсіх удзельнікаў бліц-апытання. Гэта тое, што нельга не прызнаць, хоць і з цэлым шэрагам агаворак, бо волю гэтую часам вельмі дзіўна выяўляе наша дзяржава. З вялікага мноства прыкладаў напрошваецца такі: першы нацыянальны даклад па выкананні Канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці ў Беларусі (умова Канвенцыі) выйшаў нядаўна накладам 200 асобнікаў: прыродаахоўнае кіраўніцтва вырашыла зрабіць выданне бібліяграфічным рарытэтам, а не настольнай кнігай для шырокай грамадскасці,-- што, дарэчы, супярэчыць духу самой Канвенцыі.

**Сёння ледзь не кожны гаспадарнік спрабуе запэўніць,** што ён за ўстойлівае развіццё. Фактычна ж на месцах стано-

*“Падахоўныя плошчы, якімі б важнымі яны ні былі, самі па сабе не з`яўляюцца дастатковымі для захавання біялагічнай разнастайнасці. Створаныя, як правіла, цалкам штучна, яны ў сельскім асяроддзі хутка трацяць частку “сваіх” відаў і рызыкуюць за больш ці менш працяглы тэрмін зікнуць дарэшты альбо стаць “абсалютна ізаляванымі запаведнікамі”.*

*Вось чаму пільную актуальнасць у захаванні біялагічнай разнастайнасці маюць зберажэнне і абнаўленне прыродных асяродкаў жыцця за межамі падахоўных раёнаў, перадусім — “вяртанне ў прыроду” прапарцыянальнай часткі сельскай мясцовасці”.*

“Ахова прыроды ў Еўропе. Усеахопная стратэгія кантынентальнага маштабу: некаторыя важныя аспекты”. Панеўрапейская канферэнцыя **“Навакольнае асяроддзе для Еўропы”.** Люцэрн, 28-30 красавіка 1993.

вішча зусім інакшае, часам крытычна процілеглае. “Ажыццяўленне пераходу” ад заганнай практыкі да прыродаашчадных тэхналогій і сістэм пераважна дэкларуецца. *Нацыянальная стратэгія і план дзеянняў па захаванні і ўстойлівым выкарыстанні біялагічнай разнастайнасці ў Беларусі* каторы год застаюцца зборам добрых пажаданняў. У рэшце рэшт давялося задаволіцца першачарговымі мерапрыемствамі міністэрстваў і ведамстваў, на якія там знайшліся “свае” кішэнныя сродкі. Гэта азначала, што ажыццяўленне канцэптуальных “пераходаў” адкінута на вельмі далёкую перспектыву, а першачарговыя марапрыемствы, з погляду спецыялістаў, не цягнуць нават на які-кольвек мінімум, варты гаворкі. Аднак і гэты мінімум, як паказала нядаўна праверка Мінпрыроды, не выконваецца, што мае быць прадметам жорсткага разбору на Камісіі па біяразнастайнасці (III квартал 1999).

**З**годна з Агульнаеўрапейскай стратэгіяй у галіне біялагічнага і ландшафтнага развіцця і планам дзеянняў на 1996-2000 гады, карта кантынента пачала ўжо напаўняцца сеткай “суцэльных калідораў” і “пераходных зон”, якія ў натуры значна палегчаць рассяленне й міграцыю відаў паміж прыроднымі сістэмамі (так званымі ключавымі раёнамі). Ключавыя раёны будуць складацца з раёнаў і элементаў, якія ўяўляюць біялагічную і ландшафтную разнастайнасць еўрапейскага значэння. *Агульнаеўрапейская экалагічная сетка* – новае слова ў праграме прыродаахоўнай міждзяржаўнай дзейнасці кантыненту.

Дзякуючы ёй, жывы свет прыкметна палепшыць свае “жыллёвыя ўмовы”, якія паспрыяюць захаванню відаў, генетычнай разнастайнасці, узнаўленню пацярпелых кампанентаў. На нацыянальным узроўні з`явіцца пільная неабходнасць рэвізаваць сучасную сістэму ахоўных тэ-рыторый, істотна дапоўніць іх, узгадніць з адпаведнымі формамі эканамічнай дзейнасці, скарэктаваць з сумежнымі дзяржавамі.

Распрацоўка і стварэнне Агульнаеўрапейскай экалагічнай сеткі разлічана на дзесяць гадоў (1996-2005), і цяпер гэтая праца знаходзіцца на першым этапе ў стадыі завяршэння, што прадугледжвае *распрацоўку* экалагічнай сеткі. Беларусь пакуль не выявіла “волі да разумення” і на сённяшні дзень да распрацоўкі сеткі не прыступала.



* *пацерка беларускага ўлоння (Блакітныя азёры, Мядзельшчына)*
*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

**К**ожная Канвенцыя, якая падпісваецца, мае на ўвазе шырокую падтрымку яе артыкульных палажэнняў *шырокай грамадскасцю*, першнаперш *няўрадавымі арганізацыямі*. Згодна з духам міжнароднага экалагічнага права, беларускаму наменклатурнаму кіраўніцтву сёння выгадна падтрымліваць блеф, што на Беларусі ёсць грамадскі экалагічны рух. На справе яго няма. Ніводная грамадская арганізацыя сёння не адстойвае больш ці менш паслядоўнымі дзеяннямі навакольнае асяроддзе. Не дыскутуе, не выстаўляе зыскі, не арганізуе пікеты і інш. Гэта можна параўнаць з востраю недастачаю лекаў падчас абвастрэння хваробы, якая мае пераважна палітычныя карані. Аднак калі мы хочам захаваць для пакаленняў прыстойныя ўмовы жыцця, палітычныя рашэнні і змены патрэбныя. А без актыўнай падтрымкі няўрадавых арганізацый яны немагчымыя.

Канвенцыя па біялагічнай разнастайнасці як бы стымулюе дзейнасць грамадскіх актывістаў і чакае сваіх паслядоўных прыхільнікаў ва ўсіх рэгіёнах краіны.

**Колькі радкоў з Канвенцыі:**

“Біялагічная разнастайнасць” азначае варыябельнасць (шматвідавасць – рэд.) жывых арганізмаў з усіх крыніцаў, уключаючы, сярод іншага, наземныя, марскія ды іншыя водныя экасістэмы і экалагічныя комплексы, часткай якіх яны з'яўляюцца; гэта паняцце ўключае ў сябе разнастайнасць у рамках віду, паміж відамі і разнастайнасць экасістэмаў”.

## Пытайцеся ў Міністэрстве, абласных камітэтах, раённых інспекцыях прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

**(Выдадзена для шырокага карыстання згодна з артыкулам 13 Канвенцыі аб біяразнастайнасці “Асвета і павышэнне дасведчанасці грамадскасці”)**

***Нацыянальная стратэгія і план дзеянняў па захаванні і ўстойлівым выкарыстанні біялагічнай разнастайнасці Рэспублікі Беларусь.***
Мінск, 1997. Наклад **1000 асобнікаў.**

***Першы нацыянальны даклад па выкарыстанні Канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці ў Беларусі.***
Мінск, 1998. Наклад **200 асобнікаў.**

**Згодна з Канвенцыяй аб біялагічнай разнастайнасці Беларусь узяла на сябе абавязкі**

садзейнічаць абароне экасістэмаў, натуральных месцаў сялібавання і захаванню жыццяздольных папуляцый відаў у натуральных умовах;

заахвочваць экалагічна абгрунтаванае і ўстойлівае развіццё ў раёнах, якія прылягаюць да ахоўных раёнаў, з мэтай спрыяння ахове гэтых раёнаў.

# Аўтапартрэт з вербалозных галінак

## Падарожжа па рэчышчы забітай рэчкі

*Позірк назад, на рэчку дзяцінства сёння ў кантэксце Канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці ўжо не выглядае адно як сантымент часу. Гэта спроба асэнсаваць страту каштоўнасцяў, каб у рэшце рэшт зразумець: захаванне асяродкаў — натуральных прытулкаў флоры і фауны — ёсць адзінаю ўмовай пераняць знікненне відаў. Там, дзе яшчэ не позна.*

**Галерэя памяці 1/*****

Раніца. Хочацца закрычаць ад роспачы і адчаю. Але я не крычу. Крыку няма, хоць фізічна яго адчуваю ў сабе. Да болю сціскаю зубы. Каб стрымацца, не зайсціся ў дзікім прыступе жалю, у рэшце рэшт, каб не заплакаць горка-горка.

Здараецца гэта тады, калі ў памяці ажываюць імгненні перажытага, выхапленыя ў яркай абмаляванасці і выразнасці дэталяў.

Зноў – раніца. Успамін. Сонца пакуль невысока. Але промні ўжо порстка прабіваюцца скрозь алешнік. Я сцішана сачу за паплаўком. Зроблены з гусінага пяра ды бутэлечнага корка, ён нерухома стаіць у цянётах яшчэ дрымоткага плёса, бліжэй да проціглеглага берага. Прасвечаная маладым сонцам, шчыльная навісь алешніку ў павоях дзікага хмелю ззяе найтанчэйшымі адценнямі зялёнага. Там, дзе ў патаемнай лучнасці сходзяцца бераг і плёс, яшчэ раскашуе ранішні прыцемак.

Шчаслівы той, хто аднойчы пабачыў, як роўна і ціха ляжыць на вадзе цень. Густы і цёмны ў першыя гадзіны дня, ён лагаднее з кожнай хвілінай, спакваля набіраючы ласку летняга неба, цяпло й прамяністасць. Усё больш і больш сонца. Залатыя выспачкі-плямкі, якімі сям-там акроплена паверхня вады, — квінтэсэнцыя раніцы, сапраўдны рачны флёр. На іх выбягаюць пагрэцца павучкі-плывунцы, вадамеркі. Асцярожна праплыве міма плотка – блісне срэбным бачком, кранууўшыся промня.

Цень пакрысе саступае, вось ужо палова роўнядзі адкрытая сонцу і небу. У празрыстае ўлонне акунулася першая аблачынка. Прыляцела аднекуль страказа з бліскучымі крыльцамі. Села на вуду. Загараючыся на сонцы, сплывае з аселых прырэчных куточкаў рэдзенькі туман. Нястомна ціўкае птушка ў крынічным алешніку. Асеў на расу крык гусінай чарады. Дзень напаўняецца гукамі.

Я падцягваю свой корак-паплавок бліжэй, на сярэдзіну рэчкі, але часу не застаецца, каб спраўдзіць сваю апошнюю надзею: мяне клічуць дадому, сняданак гатовы.

**Выток 1/*****

—Дачушка, пабеглі да рэчкі! — Пабеглі! — Хутчэй, мая зорка! — Бягу ўжо... А дзе яна, тата, далёка? — Ды тут, за парогам, дзе сцежка. Яна прывядзе. Ну, хутчэй! Там яшчэ не раскрыўся гарлачык. – Не бачу я, тата. Не бачу. Няма гэтай сцежкі. І рэчкі нідзе не відаць...

Немагчыма змірыцца з думкаю, што дзеці т в а е не пабачаць таго, што ў вольнай даступнасці цешыланасычала т в а ю душу, спаталяла жаданне таямніц, жывіла свет уяўленняў, дарыла асалоду і фарбы. Немагчыма змірыцца з думкай, што наступнае пакаленне – твае дзеці – пазбаўлены вопыту зносін з дзікай прыродаю. Прынамсі, у той самай меры, у якой гэта было магчыма для цябе і тваіх аднагодкаў. Што да гэтае "меры", то яе абкарнаная за апошнія два-тры дзесяцігоддзі велічыня сёння катастрафічна змяншаецца. Тэмпы дэградацыі павялічваюцца. На месцы райскіх куточкаў прыроды ўзнікаюць так званыя аграпрамландшафты. Абяздушаная, збедненая да ўбогасці мясцовасць. Пакалечаная зямля, выпатрашанае наваколле. На вачах аднаго пакалення адбываецца жудасны прыродазнішчальны віток: знікае рэчка ці возера, гара ператвараецца ў кар`ер, кар`ер – у звалку і гэтак далей.

Ой, рэчанька-рэчанька. Ой, люлі, люлі... Якая б не была ты малая – а найдзівосны ланцужок райскіх куточкаў бацькоўскага краю. Не, не ад Бога тыя гаспадары, што стваралі будаўніча-мантажныя калоны, каб глабальныя праекты псеўданавукі прывесці ў дзеянне.

Не пакідае думка і адчуванне таго, што я, нарадзіўшыся пасля крывавай бойні чалавецтва з фашызмам, быў сведкам іншай вайны, у якой ад рук чалавека лілася і льецца кроў роднай прыроды. Я быў сведкам таго, як у яе, безабароннай, перарэзалі горла, успорвалі яе вены, душылі магутнай тэхнікай, кідалі на глум і здзек. Я сведка, які дагэтуль маўчаў.

"Дачушка, пабеглі да рэчкі!.. – Пабеглі!.."

Як сумна і крыўдна і як балюча, што гэта ўжо толькі мроя.

> *Прысвячаю рэчцы Гавязнянцы...*
>
> Не я першы на зямлі, хто, як маці і бацьку,
> абавязаны роднай рэчцы, лесу, ваколіцам, на ўлонках
> якіх адбылося-прайшло дзяцінства,
> адкрасавалі дні, праляцелі гады.
>
> Не я першы, хто ўзяў пяро, каб на паперы вымавіць
> сваю ўдзячнасць, ласку і боль, пакінуць памяць.
>
> Мае анёлы са мной. Вось і твая чарга падыйшла,
> быццам чую іх голас. Не маўчы, прамаўляй.
> Рэчкі няма, засталіся словы, якіх ніхто не адыме. І
> ёсць памяць, ёсць успаміны. Увайдзі ў харомы тых
> дзён, калі рэчка жыла, цякла паміж долаў –
> здаўна, з незапомных часін. Ты яшчэ акунуўся ў яе
> струмені, напіўся яе прахалоды,
> убачыў на вадзе сваё аблічча-адлюстраванне.
> За табою не прыйдуць дзеці, унукі твае.
> Хіба што ў сне, у казцы, у мроі.
>
> ***Валеры Дранчук***



*Малюнак аўтара*

**Рэчышча 1/*****

Трыццаць гадоў як няма Гавязьнянкі. Следам, дарэчы, не стала і назвы мястэчка Гавязна, паселішча з 400-гадовай гісторыяй, якое дало імя самой рэчцы. Менавіта ў тутэйшых ваколіцах рэчка развінала берагі, у яе плёсы глядзеліся макаўкі мясцовага храма. Наіўна думаць, што паміж варварскай меліярацыяй і хваляй "тапанімічнай рэвалюцыі" няма сувязі. Ёсць! Малакультурны чыноўны люд, пераважна не маючы каранёў на беларускай зямлі, але з хворай свядомасцю першапраходцаў (лічы, заваёўнікаў), імкнуўся паўсюдна навесці свой парадак (лічы, бязладдзе). Бязглуздыя ідэі крамлёўскіх стратэгаў набывалі сілу сусветнага махавіка, жывіліся пачуццямі рабскай пакоры і боязі мясцовых чынадралаў.

Калі рэчку забівалі, рыхтуючы ёй дамавіну, ніхто з тутэйшых начальнікаў, як помніцца, голасу не ўзнімаў, не спрабаваў абараніць, ўратаваць. Вучань-сямікласнік і ўжо селькор раённай газеты, я пакутліва прадчуваў страту, квола разумеючы, што з рэчкаю будзе пакончана. На змену ёй прыйдзе тупы, як свіное рыла, канал, у якім не пакупаешся, не паваудзіш.

Дый як жа людзям без рэчкі? Гэта ж назаўжды. Навечна...

Доўга не мог прыдумаць, не ведаў, у якія званы біць, дзе шукаць заступнікаў праўды. Нарэшце, рука вывела на школьным аркушыку адрас звароту: "Дарагая рэдакцыя часопіса "Вожык"!.." Ліст праляжаў

*Гудзенне экскаватара на меліярацыйным канале – непазбыўны адметны штрых гукавой палітры беларускага пейзажу 60-х гадоў. Хіжы гук наступальнага антрапагену, ён засеў у памяці маіх летаў, быццам муха ў бурштыне.*

у школьным дзённіку тыдні два ды так і не быў адпраўлены. Можа, я пасароме́ўся сваіх думак. Можа, збаяўся, што доліс, калі яго надрукуюць, пашкодзіць сям`і, нашаму хутару, які ўсім старшыням калгаса быў што бяльмо на воку. Кожны год, спасылаючыся на ўпарадкаванне зямлі, вакол сядзібы карчавалі пракаветныя дрэвы. Нават ліпу з буслянкай на самай мяжы, побач з садам, не абыйшлі. Брыгадзір, балазе жывучы ад нас недалёка і, мабыць, зводзячы рахункі, пры кожным зручным выпадку звяртаўся да майго дзеда Івана Ігнатавіча праз густы трохпавярховы мат. Дык чаго можна было чакаць, калі б я "асмеліўся" пакрытыкаваць лінію партыі на абнаўленне "колхозных угодий"?

Але, відаць, не гэта было галоўным матывам таго майго "замоўчвання" злыднеўскай дзейнасці меліяратараў. Робяць, значыць, так трэба, так вырашыла дзяржава. Вось што стрымлівала мае парывы, мой дух. Адбывалася раздваенне дзіцячай свядомасці; асабістае, шчырае саступала на другі план, не маючы ні шанцаў, ні гарантый, што выказанае не будзе абсмяяна або зацкавана ўладу маючымі. А душа прагла выйсця. Сціскалася не толькі сэрца, але й сціскаліся кулакі.

Сёння гэта гісторыя, сведчанні відавочцы.

Спачатку на балоце з'явіліся незнаёмыя людзі. Не з вёскі і не з мястэчка. Хадзілі, запыняліся, прыкладвалі вока да мерак-слупкоў, пералазілі на другі бераг рэчкі. Памятаю іх здалёку. Самае блізкае, падыходзіў пад ліпы, што раслі пры балоце. У іх цяні, які накрываў высокую траву, можна было назіраць без усялякага страху, што цябе заўважаць. Жадання знаёміцца не было. Куды больш займала перспектыва далейшых паводзінаў дзіўных прышэльцаў.

Апярэдзіў дзед. З чалавекам, што мераў балота, ён размаўляў ужо на другі дзень іхняга з'яўлення. Упершыню ад дзеда я пачуў слова "меліярацыя". "Будуць весці канал, — вагома прамовіў ён, запальваючы цыгарку. Твар быў сур'ёзны. – Нібыта павядуць па рэчышчы рэчкі".

Канал, рэчышча… Я адразу паспрабаваў скеміць. Сумясціць адно з другім. Канал замест рэчкі? А як жа рэчка? Было відаць, для дзеда гэта таксама заставалася трывожнай загадкай. Сам мершчык адчуваў інквізітарскі бок справы, таму заспакоіў дзеда, калі той усумніўся ў правільнасці чарговай акцыі "саветаў". Дзед пасля неадночы слова ў слова пераказваў таго "ўпаўнамочанага": "Не волнуйтесь, дедушка. Никто вашу речку трогать не будет. Только кое-где придется русло спрямить".

—Чорт бы ім верыў... – пацягваючы цыгарку, падводзіў Іван Ігнатавіч.— На добры лад, рэчку прачысціць не зашкодзіла б. Пашырыць рэчышча, паглыбіць – чаму ж, добра было б.– Праз мінуту-другую прыцягваў развагу: – А калі зглумяць? Навошта канал? Выходзіць, яшчэ адна рэчка будзе?

Не раз прыгадваў дзед і тую акалічнасць, што меліярацыя – не такая ўжо чужаніца на тутэйшай зямлі. І за палякамі, і быццам бы да іх капалі балота. Але рэчку ніхто пальцам не зачапіў. Аберагалі як зрэнку вока. Вунь, каля вёскі скапычаны пастаўнік. Цяпер там хоць возам едзь. А калісьці балацянікі ў дрыгве вадзіліся.

Можа, і гэты раз нічога не здарыцца, думаў я, спадзяваўся на лепшы лёс Гавязнянкі. Можна ўчыніць здзек з нечага малога, непрыкметнага, знешне нязначнага. А тут – рэчка. Навідавоку. У берагах адвечных плыве, не ведаючы межаў. На ўсіх адна. Аднолькава даступная і разам з тым вольная, незалежная. Неба з хмарамі, сонцам ды зоркамі глядзіцца штодзень, штохвіліны ў плёсы яе люстраныя. Як гэты луг, як поле, дарога, лес, яна мае сваіх заступнікаў: мястэчка з яго жыхарамі, калгас, які кіруе старшыня, затым і да раённага начальства дойдзе вестка, што гіне рэчка Гавязьнянка. Няўжо магчыма: ёсць і няма, на месцы рэчкі выкапаны роў?.. Хто дазволіць такое?

І вось пад восень пачалося. Там, дзе рэчка рабіла першы круты паварот у бок Нёмана, паказаўся выразны сілуэт экскаватара. Ён нагадваў балотную пачвару, якая стаяла на адным месцы і няспынна круціла вакол сябе доўгай шыяй, апускаючы і падымаючы шкілетападобную галаву. Хацелася падыйсці бліжэй. Што робіць гэтая пачвара? Ці тое, што трэба? І што за апірышча пад яе чэравам?

З кожным днём усё бліжэй. Ужо можна разгледзець цёмныя адвалы выбранае зямлі. Яны цягнуліся роўным паскам, пазначаючы хаду нястомнай чарпалкі. У сонечны дзень я ўжо бачыў цень ад яе і плямы глею на чорных насыпах. Рокат стаяў з ранку да вечара. Чую яго быццам сёння. Выйдзеш на ганак – чуцён. З вудай стаіш каля рэчкі – чуцён. Не заблудзішся нават у лесе – прастуй, быццам па компасе, туды, дзе чуваць тарахценне. Па гуку можна было да драбніцы чытаць кожны рух агрэгата. Вось натужыўся, узяў зямлі, панёс, высыпаў, зноў апусціў чарпак.

Гудзенне экскаватара на меліярацыйным канале – непазбыўны адметны штрых гукавой палітры беларускага пейзажу 60-х гадоў. Як песня бекаса, як жураўліны крык, як цвыркатанне конікаў, як камарыны піск, ён гэткая ж неад'емная частка наўколля. Хіжы гук наступальнага антрапагену, які засеў у памяці маіх летаў, быццам муха ў бурштыне. Пацямнеў сам бурштын, страціў мноства першародных адценняў, перарадзіўся, няйначай, у іншую пароду.

**Выток 2/*****

Абвостранае пачуццё да родных мясцін, адчуванне нязмерных, а часам незваротных стратаў, якія цярпяць наша прырода, нашы ландшафты, пахілілі мяне гадоў колькі таму да мары прайсці ўверх па рэчцы, аж да яе вытоку. Дзе ён, цуд-пачатак Гавязьнянкі, на якім кіламетры ад майго дому, у якой навакольнай акрасе-дэкарацыі, пад якім небам? Думка пра будучую вандроўку ўсё больш вярэдзіла сэрца, а з набліжэннем лета й чарговага адпачынку і пагатоў выходзіла на першы план. Падрос, падужэў мой сын Цімох. На дванаццатым годзе цікавасць да падарожжаў у яго, праўда, не абудзілася, але прапанову пайсці разам са мною прыняў з ахвотай. Мы выбралі дзень, так падпала, што гэта было акурат назаўтра, як мне споўнілася сорак два. І з самай раніцы рушылі ў дарогу. Спрыяла цудоўнае надвор'е. Свяціла сонца. З поўдня павяваў сустрэчны ветрык. Адным словам, стаяў пачатак добрага жніўня.

Наш дом на пагорку з кожным дзесяткам крокаў аддаляўся, разам з ім і града ліпаў і яблыні саду рабіліся больш выразнымі і мініяцюрнымі. Гэткай жа, нібы на далоні, выглядала з акна хаты разора канала, паўз якую мы зараз ішлі, агінаючы дзе-нідзе лапіны густой непралазнай жыгучкі-крапівы. Калісьці тут рэчка, бы торба з горба, каціласся, паблісківаючы, уніз. Высокае месца звалася грудам. Груд прымыкаў да самае рэчкі, утвараючы ля вады абрывісты пясчана-глеісты бераг. На гэты бераг сыходзілася ды з'яз-

*працяг на ст. 12*

SUMMARY

*A Self-Portrait in Willow Branches is the title* ***of this ecological essay by Valeriy Dranchuk, which he dedicates to a brook of his childhood. It is a journey through space and time to the source of his beloved*** *Havaznyanka* ***stream, to events of the 60s, and to those people who decided the fate of the natural world. Illustrations and photographs by the author.***

**ЛУЖОК** LAWN



# Крыгаход на Нёмане

*Яўген Крамко*

Адляцелі ветравеі, прыхапіўшы з сабою халодныя хмары. Стала па-веснавому светла, спакойна. На вербах заблішчэлі аксамітавыя коцікі, быццам маленькія сонейкі.

— Сёння паломіць, — упэўнена сказаў мой сусед, стары беражэнскі жыхар. – Бачыш, Нёман адстаў ад берагоў і ўздуўся?

Сапраўды, з кожнай хвілінай шырыня чыстай вады ля берагоў павялічвалася. Раптам над наваколлем грамыхнула: "Тры-ы-ы-ы!"

— Ну што я казаў? – задаволена ўсміхнуўся сусед. – Ломіць!

Па лёдзе прабегла шчыліна і з кожнай хвілінай пачала пашырацца.

На беразе стаялі ўжо дзеці і дарослыя. Тая крыга, што была злева ад расколіны, павольна пайшла за вадою, а тая, што справа, пачала круціцца на месцы, адным сваім бокам амаль наблізілася да берага і, відаць, зачапіўшыся за дно, узнялася. З-пад яе завіравала каламутная вада, скрыгатнуў пясок. Затым з грукатам крыга павярнулася і пачала павольна адыходзіць ад берага. Аб яе, спяшаючыся на прастор, стукаліся іншыя. Яна вытрымлівала націск: адных паставіць на дыбкі, іншых пхне ад сябе. А сама ўжо ціхутка рухалася па вадзе.

Праз момант каля нас з трэскам і шоргатам пайшлі вялікія, меншыя і зусім малыя крыгі. На адной, даволі вялікай, уздоўж Нёмана плыў кавалак зімовай дарогі: утаптаная палазамі, прытрушаная саломаю, сенам. Некалькі птушак – вароны, сарокі і адзін грак, не зважаючы ні на што, хадзілі па ёй.

Вада, скінуўшы лядовыя аканіцы, пачала прыбываць так хутка, што ў момант палезла праз платы на агароды. Занёманскія грудкі на сенажацях прыкметна паменшалі. Веснавое сонца ўзнялося над магутнай нёманскай плынню.

*в.Беражна, Карэліцкі раён*

*Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел!*

 



# Спіраль жыцця як сведчанне біялагічнай разнастайнасці беларускага ўлоння



*Каб сфатаграфаваць тое, што мы бачым на здымках біёлага і фотамастака **Уладзіміра Блінова**, аўтару іх, несумненна, спатрэбіўся адпаведны фізічны й душэўны стан. Перад вузельчыкам папаратніка, што прагне ляснога святла й прастору, трэба было зачаравана ўкленчыць, нібы ў малітве перад сілай жыцця. І трэба было ўявіць грознае войска бравых шлеманосцаў... гледзячы сабе пад ногі, ступаючы на рахманы зязюльчын лянец. А якой сцішанасці патрабавала муза фатографа, калі камера фіксавала павуцінку расы, рачную затоку, партытуру ценяў вячэрняга ўрочышча.*

*Уладзімір Бліноў пасведчыў, што ўсе кадры "здабытыя" ім у ваколіцах Мінска і ў Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведніку ў розныя гады, на айчынную фотаплёнку і пераважна айчыннай здымачнай тэхнікай. Сабраныя ў наш альбомны суплёт, яны прыдаліся ў якасці цудоўнай ілюстрацыі да Канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці. Спіраль жыцця - як вышэйшы пілатаж прыродалюбнай фатаграфіі.*













 



**Здабыванне "ўскосных" трафеяў, накшталт фатаграфій, не звязана з паніжэннем якасці і прычыненнем шкоды. Малявідны пейзаж, які штодзень адлюстраваны дзесяткам турысцкіх фотакамер, ніякага фізічнага ўрону і не адчуе. Гэтак жа не пацерпіць ён, калі шчоўкнуць яго хоць сотню разоў...**

***Алда Леапольд***











SUMMARY

***P**hotoartist Uladzimir Blinou attempts to interpret the articles of the Convention on Biological Diversity in his own way. He has entitled this collection of photographic works* The Spiral of Life.

# То ўзаемна!

**Адказваючы на пытанні анкеты, чытачы абяцаюць газеце сваю падтрымку – абараняць і ахоўваць біялагічную спадчыну там, дзе яны жывуць і працуюць**

*"Вось і зараз за вокнамі школы гудуць і гудуць лесавозы – вывозяць лес. Так, як цяпер, лес ніколі не секлі"*

Шаноўнае спадарства!

Шчыра дзякую за "Белавежскую пушчу" – і за цікавае выданне, якое Вы ахвярна ладзіце, і за два асобнікі апошняга нумара (адзін, так бы мовіць, рэкламны). З задавальненнем знаёмлю са зместам выпускаў сваіх выхаванцаў – дзяцей і падлеткаў нашай сельскай школы і скаўцкай харугвы. Раблю гэта, бадай, з самых першых нумароў, як толькі газета пайшла "ў людзі". Галоўнае ў ёй — не адно сам змест, але найперш тое, што гэта сапраўдная беларуская газета. Што ёсць такая, даведаўся спачатку з публікацыі ў "Настаўніцкай газеце", а ўжо затым – і з падпіснога каталогу.

Адразу хачу сказаць, што мне падабаецца ў газеце ўсё: змест, афармленне, дабор артыкулаў. Вельмі добра, што на другой старонцы з'явілася паэзія. Цудоўна! У 200-годдзе з дня нараджэння А.Міцкевіча вельмі дарэчы былі радкі з творчай спадчыны вялікага паэта. Магчыма, з часам з'явіцца і анталогія ў прозе. І яшчэ. На мой погляд, трэба, каб у газеце часцей змяшчаліся звесткі ад чытачоў пра стан навакольнага асяроддзя ў іхняй мясцовасці, гэта значыць, у самых аддаленых куточках Беларусі. Будзе добра, калі газета напіша пра тое, што канкрэтна робіцца дзеля прыроды на месцах, у рэгіёнах. Лічу, таксама была б карыснай інфармацыя пра знікаючыя віды на Беларусі. Наогул, можа, трэба прыкласці намаганні, каб "Белавежская пушча" выходзіла на 24 старонках. Ведаю, што зрабіць гэта сёння надзвычай складана, але газету, якая набыла рэпутацыю карыснага й патрэбнага выдання, павінны падтрымаць адпаведныя структуры, заадно і дзяржаўныя.

Калі гаварыць пра сябе, то мне 50. З іх працую настаўнікам фізічнай культуры ў вясковай школе ўжо каля 30 гадоў, праўда, не на адным месцы.

Лічу, што кожны навучальны прадмет мае дачыненне да экалогіі. Сёння, тым часам, мяне вельмі непакоіць экалогія душы настаўнікаў і іх выхаванцаў. Гледзячы на нікудышныя вынікі сучаснага выхавання, стварыў у 1993 годзе незалежную недзяржаўную дзіцячую скаўцкую арганізацыю. Але да цяперашняга часу не даюць спакою чыноўнікі ад адукацыі ды іншыя "кантралёры". Бывае, даходзіць да смешнага: у незалежнай недзяржаўнай арганізацыі патрабуюць справаздачу аб рабоце. Не абмінулі "ўвагай" і супрацоўнікі КДБ, якія неаднаразова цікавіліся дзейнасцю скаўцкай харугвы "Зялёная Дуброва" імя Т.Касцюшкі. Запыталіся нават, чаму арганізацыю называюць "Зялёная Дуброва", можа, думаюць, гэта парасткі "Зялёнага Дуба" (напэўна, ведаеце, што была на Беларусі такая арганізацыя).

Да скаўтынгу прыйшоў са спартыўнага турызму. У мінулыя гады вадзіў школьнікаў па Карпатах, Туркменіі, Крыме, Беларусі. Быў за мяжой, разам



* *акно лазенькі зроблена так аздобна-прыгожа, што можа падацца часткай самой прыроды. Мядзельшчына, 1997*
*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

з выхаванцамі браў удзел у экалагічнай акцыі ў Бешчадах у Польшчы. Гледзячы на адносіны да роднай прыроды падчас дзяржаўных турысцкіх злётаў ды іншых мерапрыемстваў у рэшце рэшт схіліўся да экатурызму. Кожны год скаўты "Зялёнай Дубровы" садзяць лес у адным з лясніцтваў Мядзельскага раёна, ладзім іншыя прыродаахоўныя і экалагічныя акцыі.

Урэзалася ў памяць акцыя "НЕ губіце бярозы!". Калі дарожнікі асфальтавалі дарогу Куранец -- Свір, яны, спасылаючыся на праект, пачалі спрэс рэзаць і рваць з карэннем усе бярозы абапал дарогі, нават у населеных пунктах, а драўніну прадаваць мясцовым жыхарам за гарэлку. Давялося падняць жыхароў вёскі Буйкі і вывесці да бяроз мясцовых школьнікаў. Паднялі на ногі і раённае начальства, і дарожныя службы. У рэшце рэшт, на невялікім адрэзку ўдалося абараніць бярозы. А разам з тым захаваць адметнасць беларускіх гасцінцаў.

Летам 1997 года ладзіў вандроўны скаўцкі лагер "Мой чароўны беларускі край", які штодня (а гэта каля 100 чалавек) рухаўся пешшу па вызначаным маршруце ( маршрутны дакладнік прыкладваю да ліста). А калі ідзеш, бачыш больш, чым з вакна аўтобуса. Спыняешся, разважаеш. Занепакоіў экалагічны стан навакольнага асяроддзя. Амаль на ўсіх малых рэчках стаяць буйныя жывёлагадоўчыя фермы. Лета, спёка, купацца ахвота – а нельга, бо вада забруджаная. Не ўсюды чыстая і ў калодзежах. Вось яшчэ небяспека над чалавекам і прыродай навісае вялікая!

Я жыву і працую ў сельскай мясцовасці. Калі гавараць дакладна, сялібую побач з прыродай і бачу на свае вочы, зблізку, што робіцца з навакольным асяроддзем. Вось і зараз, штодня каля нашай школы па дарозе ідуць магутныя лесавозы – вывозяць лес. Так, як цяпер, лес ніколі не секлі. Але ж "вельмі" патрэбна некаму валюта.

Наш Мядзельскі раён, дарэчы, лічыцца курортнай зонай, гэта, можна сказаць, унікальны раён. Але па ўсім відаць, што яго хутка загубяць. Возера Нарач, прынамсі, патрабуе ўжо пільнага паратунку.

Мяне яшчэ вельмі турбуе сістэма школьнага навучання. Няма ў навучальных праграмах рэальнай экалагічнай асветы. Зусім нядаўна былі расасланы загад з раённага аддзела адукацыі, каб школы складалі свае комплексныя праграмы экалагічнай адукацыі і выхавання школьнікаў. Што з гэтага атрымаецца, не ведаю.

Рабіў спробу "разбудзіць" настаўнікаў у сваім і суседніх раёнах, якія зацікаўлены ў вывучэнні і ахове навакольнага асяроддзя. Сіламі навучэнцаў выпускалі свой інфармацыйна-адукацыйны бюлетэнь "Зялёная Дуброва" і распаўсюджвалі па школах (колькі нумароў дасылаю і вам). Цяпер часова не выпускаем, бо няма сродкаў на распаўсюджванне й расходныя матэрыялы. Маю, увогуле, горкі досвед, што большасць нашых настаўнікаў прывыкла, каб была нейкая каманда зверху, тады яны нешта пачнуць рабіць, хоць, бывае, не надта і ўдумваючыся ў тое, што робяць. Магчыма, дзесьці маюць рацыю, бо за такія грошы, якія дзяржава плаціць ім сёння, які сэнс вымагаць... Але ёсць яшчэ покліч душы. На мяне спачатку глядзелі як на дзівака: пачаў займацца аховай прыроды, экалогіяй, здаровым ладам жыцця... – навошта? Настаўнікі біялогіі нават захваляваліся, ці не пакваліпўся я на іхні кавалак хлеба (жартую).



Можна шмат чым дзяліцца з вамі, бо газета падабаецца і выклікае на размову, але сёння буду развітвацца.

Зычу дабра і творчых поспехаў!

З павагай
***Бернард Пакульніцкі,***
вёска Буйкі
Мядзельскага раёна

***З рэдакцыі.*** *Шаноўны сп. Бернард! Маршрут вандроўкі, які Вы прыклалі, нам спадабаўся. З Вашае згоды газета яго надрукуе наступным разам. Увогуле, час ацэніць Вашую працу. Няхай яна будзе ўдзячнай і плённай. Лебедзі Вам ляцяць!*

*"Цяпер мы ўсе мусім вярнуцца ў той залаты час, каб ад яго адштурхнуцца і рушыць далей"*

Паважаная рэдакцыя!

Паважаны спадар галоўны рэдактар!

Даруйце, што звяртаюся да вас толькі цяпер. Справа ў тым, што першы нумар БП, які я ўбачыў, быў толькі №5 за мінулы год. На жаль, не знайшлося нікога, хто б раней падказаў, што існуе, і ўжо даволі працяглы час, т а к о е выданне.

Што да анкеты.

Той першы нумар я купіў у шапіку. Уражанне? Мабыць, такое, якое было ў першаадкрывальнікаў Кландайку. Аднак разам з тым закралася і боязь, што з-за вельмі нізкага кошту падпіскі ў вас могуць узнікнуць праблемы з фінансамі.

Якасць друку ў БДД аказалася ніжэйшай, чым у ПП "Мэджык". Можа, занадта буйны шрыфт, занадта вялікія вывы рубрык. За кошт гэтага тыя самыя фатаграфіі, якія змешчаны ў нумары, можна было б даць большым фарматам.

Пра сябе. 44, праграміст у медычнай установе. Па адукацыі фізік, закончыў БДУ. У гадах 1993-96 працаваў экспертам па знешніх эканамічных сувязях. Інтарэсы: фатаграфія, прырода, спорт, класічная і рок-музыка, замежныя мовы (нямецкая, польская), беларушчына.

Цяпер больш падрабязна пра занятак фатаграфіяй. Да 1976 году займаўся толькі эпізадычна. У памянёным годзе купіў у Алма-Аце нямецкую кніжку па фота і з таго моманту фатаграфія паступова станавілася ўсё больш важным складнікам майго жыцця.

Праз колькі гадоў з'явіліся першыя публікацыі ў прэсе. Часцей за ўсё друкаваўся ў газеце "Чырвоная змена", якая на той час была вельмі прыстойнай газетай.

Падахвочаны першымі поспехамі, нават паставіў сабе за мэту – дасягнуць 1000 публікацый у прэсе. Што ж, адзін год у друку з'явілася 13 маіх

здымкаў, з іх 10 – здымкі прыроды. Мне здавалася, яшчэ трохі падбавіць тэмпу – мае планы стануць зусім рэальныя. Між тым, у наступным годзе было адно 12 публікацыяў (прыроды – 7), яшчэ праз год – 7(6), потым вынікі пагоршыліся яшчэ больш, і, такім чынам, на сёньняшні дзень я маю ўсяго 53 публікацыі, з іх прыроды – 32...

Тым часам, я не пакінуў займацца фатаграфіяй. Канешне, жыццё вымагае большай інтэнсіўнасці дзейнняў па іншых напрамках. Канешне, дарагоўля. Раней, чорна-белая плёнка каштавала 0,05 ад кошту бутэлькі гарэлкі, а цяпер – 1,5-2,5. Аднак, як бы каму не хацелася, у маім жыцці гарэлка не стала займаць большае месца, а фатаграфія – меншае.

Калі ўсё будзе добра, г. зн. БП будзе выходзіць, а мае работы будуць падабацца БП й друкавацца, мне спатрэбіцца некалькі гадоў адно на тое, каб "рассмакталася", што назапашана. 17.01 я меў выхадны, дык пераглядаў свае негатывы за гады 91, 92, часткова 93. Шкада таго залатога часу! Цяжка ўспамінаць, як яго марнавала нашая інтэлігенцыя. Нібыта сур`ёзныя людзі на злом галавы спрачаліся аб тым, якім павінен быць фон крыжа на нашым Гербе – белым ці залацістым. Некалькі гадоў спрачаліся, якім быць нашаму гімну. Быццам, не адчувалі, што ўжо рыхтаваўся іншая музыка, іншыя спевы...

Цяпер мы ўсе мусім вярнуцца у той час, каб ад яго адштурхнуцца і рушыць далей. Калі ўсё будзе добра, буду патрохі друкаваць з негатываў, зробленых у той святы час, і дасылаць вам. Акрамя таго, маю шмат новых праектаў, для рэалізацыі якіх як быццам у мяне ёсць усё, — толькі б зноў з'явілася адчуванне, што некаму гэта патрэбна.

Здымаю часцей за ўсё камерай "Салют". Здымкі, якія я высылаю гэтым разам, зроблены ў Асіповіцкім раёне, блізу мясцінаў, звязаных з дзяцінствам Максіма Багдановіча.

Вельмі хацелася б разлічваць на трывалае супрацоўніцтва з вашай цудоўнай газетай. Шкадую, што не ведаў аб ёй напачатку 1997 года. У той год я б мог зняць рэпартаж аб тым, як знішчалі цэлы квадратны кіламетр лесу ў непасрэднай блізкасці ад Гомля. Тады я лічыў, што выдання, якое магло б заапекавацца гэтым злачынствам, не існуе. Цяпер я ведаю, што вы ёсць, і, дасць Бог, будзеце заўсёды. Што ж , давайце разам абараняць тое, што пакуль ацалела. Д а в а й ц е  п р а ц а в а ц ь  р а з а м .

З найлепшымі пажаданнямі
***Аляксандр Урбановіч,***
Гомель

***З рэдакцыі.*** *Чакаем, Аляксандр, здымкаў для аўтарскага "Альбома" (наша сталая рубрыка) і будзем разам спадзявацца, што "некаму гэта патрэбна".*



**Здымак з канверта**

** замест "вынішчальнага" фотарэпартажа, які* ***Аляксандр Урбановіч*** *не зрабіў з часовае скрухі, што напаткала яго на пачатку 1997, друкуем ранейшы ягоны сюжэт, поўны велічы, харства і спакою. Аднак, глядзячы на камель-калону выноснага дуба, міжволі думаеш-хвалюешся і за лёс гэтага дрэва, і за лёс усяго беларускага лесу.*

## SUMMARY


***The readers' letters are laced with alarm for their native Belarus' biological and scenic heritage, and report cases of state appropriation and use of protected natural areas (see photo).***


Усім, хто мае выпускі газеты "Белавежская пушча", раім скарыстацца няхітрым спосабам, як найлепш захаваць іх, — пранумаруйце ды збярыце ў падшыўку. Хто гэта ўжо зрабіў, мы ўдзячныя ўдвая.
Рэдакцыя.

## "Нам кажуць так: пацярпіце, вось высячам гэты лес, прадамо за валюту і зробім тут нацыянальны

Паважаная рэдакцыя!

Анкета мяне зацікавіла, ды й не магла не зацікавіць, бо гаворка ідзе не проста пра выданне, а пра адзінае на Беларусі незалежнае экалагічнае перыядычнае выданне, якім на сёньняшні дзень і ёсць газета "Белавежская пушча". Кажу "ёсць" і баюся, каб не сурочыць.

Адкуль даведаўся? Адрэкамендавалі знаёмыя. Канкрэтна Зеніна Іна Міхайлаўна, навуковы супрацоўнік нацыянальнага парка "Прыпяцкі". Спачатку падумаў, што гэта рэгіянальная газета захаду Беларусі (можа, не адзін я так памыліўся?), а калі пачаў чытаць, усё стала на месца.

Першыя нумары выглядалі больш святочна, бо друкаваліся на добрай белай паперы. Затое цяпер, калі трымаеш у руках  г а з е т у – адчуванне крыху іншае, але не будзённае, бо і афармленне, і "выкладка" старонак засталіся на тым жа добрым, нават вельмі добрым узроўні. Мяркую, рэдка якое перыядычнае выданне Беларусі можна параўнаць з вашым.

Аднак вельмі важны і змест – тое, аб *чым* газета, *якія каштоўнасці* абараняе. У звязку з гэтым хацеў бы параіць ці пажадаць, каб на старонках БП з'яўляліся дыскусіі, якія, бадай, адусюль чамусьці зніклі (мо, час такі?). Прыродакарыстанне – сфера надзвычай вялікай сацыяльна-грамадскай зацікаўленасці. Таму пэўныя захады ў гэтым кірунку будуць удзячна прынятыя чытацкаю аўдыторыяй. Мне асабіста хацелася б праз БП даведацца, як развіваецца экалагічны рух у краінах Еўропы, у нашых суседзяў: Польшчы, Прыбалтыкі, Украіны, Расеі. Пра гэта наўрад ці напіша хто з той грунтоўнасцю, на якую можна разлічваць у "Белавежскай пушчы". І яшчэ. Асветніцкі бок газеты адно ўзбагаціцца, калі паспрабаваць даць галерэю партрэтаў найбольш выбітных вучоных-эколагаў (Вярнадскі, Рэймерс, Яблакаў ды інш.).

З мінулых публікацый газеты найбольш запомніліся інтэрв'ю з З.Мураўёвым, фотаальбом Ул.Блінова, малюнак-плакат "Піце на здароўе!". Увогуле ж, цікавых файных публікацый шмат. Ёсць нават цэлыя нумары, якія чытаеш, быццам адзін мастацкі твор.

Цяпер пра вашае выжыванне. Цяжка што-небудзь тут раіць, жывучы ў Тураве. А вось выказаць сваю вялікую зацікаўленасць і нават пільную патрэбу ў такой газеце як ваша, мне, жыхару правінцыі, як кажуць, і сам Бог наказаў. Ведаю, напрыклад, як неабходна газета настаўніку, адзінаму, часам, чалавеку на вёсцы, які здольны па-сапраўднаму заапекавацца станам ваколіцаў, зялёнымі каштоўнасцямі "глыбінкі", перадаць гэта дзецям. Маючы пад рукой "Белавежскую пушчу", яму лягчэй гэта зрабіць, бо падтрымка з боку незалежнай газеты ідзе адпаведная. Сёння хто б ні пачаў адстойваць святое "права на жыццё", на "спрыяльнае навакольнае асяроддзе" (гл. мінулы нумар "БП"), ён у большасці выпадкаў становіцца ў апазіцыю да пануючага ладу, традыцыйнага заганнага гаспадарання. І ў гэтым плане газета ўзнімае незалежны дух, дае слушныя арыенціры.

А фінансавыя цяжкасці, эканамічны крызіс, дасць Бог, вы агораеце. Іншы раз застаецца толькі спадзявацца на гэта.

Цяпер, хоць у бегла-таропкім выкладзе, пра тое, чым жыву, аб чым думаю. Мне выпала сялібаваць у запаведным кутку тураўскага Палесся, якое вельмі любіў пісьменнік Уладзімір Караткевіч (пра гэта ішла гаворка ў маім артыкуле "Незахаваная Тураўшчына", БП, №3, 1998). Тут, у правінцыйным мястэчку, мне добра відаць тое, пра што ведаюць, але хаваюць ад грамадскага вока шматлікія чыноўнікі ад экалогіі, – разбурэнне запаведнай спадчыны й бурнае гаспадарчае асваенне каштоўных (пераважна лясных) ахоўных тэрыторый. Пра гэта я і спрабую пісаць, біць у званы. У цэлым "кіно" такое (буду сцісьлым). Той, хто грэе рукі на продажы запаведнай драўніны ў замежжы, хто прымае рашэнні аб дазволе так званых "валютных" паляванняў" на ахоўных тэрыторыях, хто бессаромна акупаваў запаведнікі, — той жа прапануе грамадскасці беражліва адносіцца да прыроды, любіць яе і ахоўваць. "Той" – гэта каму ўсё дазволена: карыстацца нацыянальным багаццем, як сваім уласным і лгаць, абжульваць, аблічваць. Яны, уладу маючы, цешаць людзей абяцаннямі міфічнай гарантыі, што ад іхняга здзерства ўсё застанецца цэлае, амаль непарушнае. Нам кажуць: пацярпіце, вось высячам гэты лес, прадамо за валюту, а на выручаныя грошы зробім тут нацыянальны парк... І сякуць, і прадаюць, і абдурваюць. Такое "кіно". Быў Прыпяцкі запаведнік, стаў – нацыянальны парк "Прыпяцкі". Дасць Бог, час "непаразумення" адыдзе, міне. Але што застанецца?..

***Міхал Козел,***
незалежны эколагіст
Тураў,
Жыткавіцкі раён

**Здымак з канверта.** *"Што выразаем і што застаецца..." -- так назваў свой здымак-SOS аўтар ліста Міхал Козел. Ен удакладніў, што кадр зроблены на тэрыторыі Нацыянальнага парка "Прыпяцкі", ў Азярынскім лясніцтве (квартал №141) 10 траўня 1998 года. Яшчэ адным дубам на асабліва ахоўнай тэрыторыі стала менш. Што казаць пра іншыя мясціны Беларусі! Рэжуць выбарачна, пад нож ідуць самыя спелыя і самыя роўныя асілкі.*



*са старонкі 7*

джалася купацца моладзь з бліжэйшых вёсак – Ахрэмавіч, Петухоўшчыны, Кучкуноў, часам з самога мястэчка. Месца было разлогае, з другога берага да самай вады падступаў добры пойменны луг, за ім палоскаю збажыны жаўцела поле, у полі за садам хаваліся будынкі хутара, далей за дарогаю пачынаўся *Замкавы лес*. Груд, колькі помню, быў выпасам для кароў ды шчодрым радовішчам торфу для вяскоўцаў на зіму. На старых тарфяных копанках, што заставаліся пасля распрацовак, добра разводзіліся карасі, у зарасніках травы гнездаваліся птушкі.

"Ды гэта ж Петухоўскія копанкі", – раптам прамовіў я, азіраючыся навокал. Цімох зразумеў маё здзіўленне. Пад наском кеда ляжала, быццам рассыпаная, тарфяная крошка, сям-там сцёртая ў іржавару́жы пыл. Крыху далей, у забалаці, дзе паднялося-закусцілася вербалоззе, у траве пакрэктвала самотная птушка. Я прыкленчыў. Быццам разгорнуты буквар, ляжаў перад намі не сцёрты шматгадоваю арацьбою кавал прырэчнай зямліцы. Літары, словы паўставалі нібы з небыцця. І ўсё да болю знаёмае. Вось трава гусіная лапка, мяккая і густая, — зялёны пух зямлі. Вось крываўнік – тысяча лісцікаў – у духмяных кветкавых вяночках. Тут і буслікі чарадою, і яркія свечкі зарніцаў, і піжма-красуня. І важны асот. Грыўка шаўковай цёмна-бліскучай травы – не ведаю, як называецца, — просіць тваёй далоні... Адрываю па каліву з кожнай расліны і складваю няхітры суплёцік з лісцяў. Дзякую, жыццё, за свята. Для душы, для вачэй, для сузірання таго, што жывым заставалася ў адкладах памяці, -- і раптам гэткае рэальна жывое, у тым жа даўнім дзівосным спалучэнні-суседстве нібыта ўваскрэсла, абудзілася ад шматгадовага сну, заяснела ў промнях сённяшняга, не вынішчанага да дна, зялёнага ўлоння. Хоць рэшта, слядок, напамін – а грэе і спаталяе душу.

Абгінаючы канал-стрэлку, параўняліся з пастухом, што падрэмваў, лежачы ў траве. Разгаварыліся. Стары петуховец успомніў, як у карчах блізу нашай сядзібы ўся акруга – і петухоўцы, і кучкуноўцы, і цярэскаўцы лавілі ў рэчцы ракаў. До-обрых ракаў. "Золата, не рэчка была. Бальшавікі нічога не пакінулі", — махнуў пугаём.На гэтым і развіталіся.

*Паўвека таму на гэтым месцы вольна й прыгожа плыла-разлівалася Гавязьнянка, раскашаваў надрэчны луг, у лазняках ды алешніку цёхкаў салоўка. Неадольная сіла прыроды з неймавернай натугай вяртае знявечанай тэрыторыі былыя рысы адвечнай біёты: паўстае балацiна, аднаўляюцца віды раслін, ціша ў канале вада. Адно шкада: няма самой рачулкі.*

*Фота: 1994 год*



**Галерэя памяці 2/*****



Месцамі рэчышча Гавязьнянкі звужалася ў ручаёк, які не баючыся падмачыць пяткі можна было й пераскочыць. Аднойчы гэта мне не ўдалося, і я апынуўся ў хуткацечнай крынічнай вадзе. На мне былі кароткія штонікі, майка. Майка ўраз намокла і прыліпла да грудзей: на вузкіх мясцінах было глыбакавата.

Апанаваны бліскавічнасцю здарэння (не столькі ад небяспекі, колькі ад нечаканасці й нязведанасці) я вомегам выбраўся на бераг. У гэтым маленькім псіхалагічным паядынку паміж мною ды цікай патаемнасцю прыроды, яе незалежнай натуры першым маім саюзнікам была прыбярэжная купіна моцнай травы, за якую я ўчапіўся спачатку адной, пасля другой рукою.

Скаламучанасць неўзабаве сплыла, і з берага мая купальня выглядала больш чароўна-спагадлівай і бяскрыўднай, чым пагрозлівай: у чыстых струменях на тоўстых ножках пагойдваліся жоўтыя збаночкі, паміж круглых лістоў прасвечвалася жоўтае донца.

Толькі цяперака, стоячы на сухім беразе, я адчуў пад босай ступнёю халодны жвір ды аплецены карэннем аеру пружыністы донны грунт.

Сэрца яшчэ трапяталася ў вузкіх дзіцячых грудзях.

**Рэчышча 2/*****

Толькі што ў хату. Ізноў хаджу па канале. Успамінаў, пазнаваў, цешыўся, бедаваў. Шукаў сляды рэчкі, пільна прыглядаючыся да кожнай былінкі, купіны, балацінкі. Знаходжу знаёмую кветку. Вітаўся з ёю, але тая, здавалася, не падымала вачэй, глядзела ці не з дакорам – яна ж з таго свету. Мокры слядок падаваў надзею – няўжо ўваскрэсла крынічка? Ішоў далей нібы ў прадчуванні спаткання з дарагім і мілым чалавекам, па якім доўга нудзілася сэрца.

Цёмныя меціны зарубцаванага рэчышча выразніліся на светла-зялёным уборы пакошанай сенажаці. Яны віднеліся там, дзе рэчка калісьці пятляла-вілася, выраблючы, нібы ў танцы, неймаверныя выкрунтасы. То быў яе характар, яе нораў. Яе натура, краса. Няўмольны канал, паводле законаў спрошчанай чалавечай логікі і насуперак іншым законам, адрэзаў тыя чары-дзівосы.

Каб шматразова пераехаць рэчку там, дзе яна замінала дадзенай перспектыве, цмок меліярацыі мусіў шторазу яе ўмярцвіць. Рабілася прыкладна так. Рэчышча на месцы пераправы запаўнялася грунтам, грунт утрамбоўваўся, і экскаватар, лязгаючы гусеніцамі, успаўзаў на свежы земляны мост, падаслаўшы пад сябе масціны з бярвенняў. Запыненая вада спускалася з адсечанай дугі ў свежы роў. Апошні ўздых, апошні ўсплеск — цмок праглынаў яшчэ адну блакітную клетачку пад небам Бацькаўшчыны.

На лёгкую дармавую здабычу збіраліся часцей за ўсё тыя, хто па рыбу на рэчку заўсёды хадзіў з вядром. Гэты раз не трэба было прыхопліваць ніякага начыння. Плоткі, акуні, шчупакі, уюны -- увесь скарб Гавазьнянкі --заставаліся на пякельна-асмяглым дне альбо на маленечкіх сподках рэштак вады. На векі вечныя пусцелі, сходзілі ў нябыт рыбіны норы.

Мужчыны лезлі ў гразь на сярэдзіну рэчышча, бралі рукамі жывую, бездапаможную, амаль нерухомую рыбу, часам зачэрпвалі вёдрамі. Стаяла густая гамана, перасыпаная воклічамі ды лаянкай.

*Працяг у наступным нумары*

**Фундатар экасюжэта** Мінскі завод колавых цягачоў

# Традыцыя вясновых падпальванняў нясе трывожную ноту чалавечай грахоўнасці ў прыродзе



Вясна. Дух адталай зямлі запаўняе ўлонне ваколіц, бадзёрыць і вяселіць людскія сэрцы. Якая моцная надзея на радасць! У полі жаўруковы спеў, за ганкам свежая зеляніна, у лузе першая краска. Глядзіш, абудзілася ў ранняй турботе пчала, замітусіліся ля плоту матылькі. Вясна, кажуць, ёсць абуджэнне нашых душаў. Свет прыроды і чалавек як ніколі адзіныя ў гэты час. Здавалася б, што можа перашкодзіць іх лучнасці?

Кожную вясну бачым і сведчым з болем: дзе толькі-толькі падсохла на сонцы леташняя трава, там займаецца полымя, вычарняючы і выпальваючы зямлю. Быццам хтосьці нябачны шчыруе з палаючым ветахам, ледзь паспяваючы ўсюды, дзе толькі можна. Вынік спусташальны. Збядняецца раслінны покрыў. Глеба губляе гумус. Выгараюць гнёзды птушак, матылёў, мошак. Гараць гаі, падлескі, лясы. Дым атручвае наваколле. Асмаленая зямля траўміруе душы людзей... За кожным такім падпальваннем – людская рука, чырканне запалкай ці шчоўканне запальнічкай. Хто асмеліўся гэта зрабіць, відаць, ведаў, што чыніць благое. Нават калі гэта падлетак. Пускаючы агонь, кожны інтуітыўна, на генным узроўні адчувае трывогу. Але, магчыма, не кожны (тым больш, падлетак) усведамляе, у якога монстра-знішчальніка перакідваецца падчас прагны язычок выбаўленага агню. У якое страшнае і жорсткае войска ператвараецца вогненны "салдацік" з дзіцячай далоні. Падпальшчык часта не бачыць наступстваў і маштабнасці свайго ўчынка. Я бачыў і сведчу пра тое, як на некалькі кіламетраў , сягаючы метровай вышыні, цягнуўся пасак агню побач з аўтатрасай і пераймаць яго беглі старыя нямоглыя жанчыны з бліжэйшых хутароў... На жаль, традыцыя вясновых запальванняў нясе трывожную ноту, памнажаючы рахункі чалавечай грахоўнасці ў прыродзе. Можа, досыць. Асцеражомся. Яшчэ не дайшлі да апошняй мяжы, і ў душах жыве надзея. Там, дзе ёсць сям'я, там, дзе ёсць школа, там, дзе ёсць грамадства, знойдзецца і СЛОВА ПЕРАСЦЯРОГІ. Мы павінны асцерагчыся, пераадолець спакусу шкоднай прывычкі, асланіць светлы воблік прыроды ад бяздушнасці і гвалту. Калі не пашкадуем дом жаўранка ці курапаткі, не злітуемся перад кволымі сялібамі матылёў і кузурак, мушак і мошак, не пакінем у спакоі ціхія куточкі безабароннай прыроды — хто і калі пашкадуе нас, такіх бязлітасных і жорсткіх?

Давайце задумаемся: ці варта ставіць падножку прыродзе, калі ёй і так цяжка несці непамерны громазд чалавечага гаспадарання? І давайце не давяраць інертнай наіўнасці, што праблему вырашыць які-небудзь чарговы указ альбо кіраўніцкая дырэктыва. Дырэктыва такая ёсць: – "ПАКІНЕМ ЗАПАЛКІ ДОМА !" *В. Д.*



# Белавежская пушча: каляндар прыроды

** апошні снег у вальеры*
*Фота: Віктар Бахараў (Гродна)*

**Віктар Бахараў,**
біёлаг

## Сакавік

Звонкія спевы *сініц і дзятлікаў* пакрысе напаўняюць лес. Яшчэ скрозь ляжыць снег, а вясна ўжо азвалася. "Сакавік – раніца года", — любіў паэтычна заўважыць Сцяпан Віктаравіч Шостак, пушчанскі вучоны-біёлаг. Так можна сказаць хіба тады, калі ўжо вясна ў тваёй душы, і хочацца яе прывітаць – узнёслай думкай, лірычным словам.

Сакавік у Пушчы традыцыйна пачынаецца *пацяпленнем*. І хоць снегу ў першую дэкаду, бывае, накідае шмат, гэта ўжо не зіма. Надарыцца часам *рэдкае спалучэнне вялікага снегападу з мяккім надвор'ем*, калі паветра не коле твар марознымі сняжынкамі, а прыемна лашчыць вільготным і мяккім вясновым дыханнем. Праўда, на раніцу яшчэ падціскае мароз, і снежны *шарпак*, надзіва трывалы пасля адлігі, нясе вялікае расчараванне й пакуты лясным жыхарам. Па ім лёгка бегаць *зайцу* на шыракаватых з аблямоўкаю лапах, *ліса* таксама не гаруе. А вось капытныя – малыя і вялікія, асабліва *казуля* – зведваюць сапраўднае ліха. Тонкае капытца лёгка ламае ледзяную скарынку, скура ног пры гэтым балюча абразаецца й раніцца. Нялёгка і *аленю*. Толькі *лось*, маючы камус (моцную скуру ніжняй часткі галёнкі), не адчувае вялікіх цяжкасцяў. Аднак маладыя ласі ў гэты час абачліва зніжаюць тэмпы перамяшчэння. Усе капытныя, каб перачакаць благі перыяд, выбіраюць зараснікі кустоў, ельнікі, дзе менш снегу і можна схавацца ад хіжага вока.

Сонца ўсё часцей зіхціць-пасміхаецца ў ледзяных люстэрачках снегу, у доўгіх *ледзяшах*, што звісаюць з дахаў будынкаў. Доследы паказалі, што талую ваду ледзяшоў можна ўважаць за жывую; дзякуючы адметнай структуры свайго складу, яна валодае ўласцівасцямі біястымуляцыі.

Тымчасам брыняюць *бярозавыя пупышкі*, якімі пад вечар набіваюць свае воллі *рабкі, цецярукі, глушцы*. Пачынае хадзіць у ствалах бярозавы сок; першымі, вядома ж, яго нап'юцца дзятлы. Яны ў кары прадзёўбваюць дзірачкі і з асалодай ласуюцца вясновым напоем.

На сакавіцкі снег *скідаюць рогі алені*, а леснікам выпадае шчасце іх падабраць. Дарэчы, алень скідае спачатку адзін рог (толькі зрэдку бывае інакш), аднак другі парушае раўнавагу галавы, таму звер як мага спрабуе скінуць і яго. Знайсці рог аленя, вядома, вялікая ўдача. Часам для гэтага трэба няшмат – хоць бы ўважліва глядзець пад ногі ды ўмець адрозніць сук ад... жаданага трафея. Вось як было аднойчы са мной. Ішлі з леснікам і я наступіў на моцны сук у снезе. Той зрушыўся і злёгку ўдарыў па галянішчы. Я рушыў далей. Ляснік тут жа мяне аклікнуў, я азірнуўся: у руках ён трымаў мой "сук" — леташні рог маладога аленя. Не маё шчасце!

З другой палавіны месяца пачынаецца *такаванне глушца* – з'явы адметнай у Пушчы і вартай таго, каб менавіта самому трапіць на такавішча ды пабачыць-паслухаць гэты цудоўны спектакль прыроды.

По снежнай калатушы цяпер цяжка бегаць *зайцам*. Паспрабуй пабяжы на мокрых лапах! Аднойчы на дарозе мой знаёмы рукамі злавіў бедалагу, зацкаванага сабакамі. Зайка знямогся і нават не адбіваўся. Магчыма, ёсць рацыя ў тым, што кажуць людзі: з мокрымі лапамі



заяц, маўляў, не пабяжыць. Хоць абараняецца па-ваярску. Здаралася, ударам задніх лапаў разрываў на грудзях зімовае адзенне. А ад калецтва жывата ўберагала хіба шырокая вайсковая дзяга, якою падпяразваліся паляўнічыя.

Гэты раз заяц быў зусім кволы. Дома яго пасадзілі ў карзіну з сенам, і ён неўзабаве ўжо хрупаў сухімі травінкамі. Праз два тыдні паўстала пытанне: што з ім рабіць? Меркаванне галавы сям'і — шкуру на шапку, а мяса стушыць з бульбаю ў печы – было катэгарычна адпрэчана жонкаю й дзецьмі; яны дружна папярэдзілі, што есці мяса не будуць. Уначы бацька ўзяў карзіну і выпусціў зайку за пуняю ў поле. Як кажуць, вольнаму – воля.

Прыканцы сакавіка, ў красавіку ў зайчыхаў з'яўляюцца *зайчаняты*. Зашыўшыся ў леташнюю траву, яны чакаюць сваю чарговую маму, якая пакорміць. У зайчанятаў няма адной мамы, і любая зайчыха, натрапіўшы на немаўлятка, абавязкова яго пакорміць і пабяжыць далей. Малако ў зайцоў густое і пажыўнае. Малыя растуць хутка.



*[illegible] зайка [illegible] трапіў у добрыя рукі [illegible]оўнікаў Музея прыр[illegible]*

Пасля з'яўлення на свет зайчаняты нейкі час не бегаюць. На гэта ёсць асаблівая прычына – каб не пакінуць пахучага следу. І яшчэ. Знойдзенага зайчаняці не трэба чапаць – на поўсці застаецца чалавечы пах, а гэта, лічы, галодная смерць.

Шмат хваляванняў і ў *дзікоў* — паяўляюцца маленькія паласатыя парасяты. Перад гэтым парадзіха ўпотай пакідае статак і ў зацішнай мясціне будуе гняздо-схоў з сухой травы. На гэта ёй спатрэбіцца 3-4 гадзіны ўпартай беспярэпыннай працы – копка гатовая. Пасля нараджэння маці доўга не пакідае гняздо, дзе тэмпература, нягледзячы на замаразкі, ніколі не апускаецца ніжэй плюс 10-ці. Праз колькі дзён пачынаецца аб'яднанне ў "дзіцячыя садкі": чарговая мама правадзіць сваіх немаўлятак-дзікоў у гэткі свой лясны хаўрус. Колькі тут хваляванняў! Але парадак хутка ўсталёўваецца. Кожны "дзічок" добра ведае менавіта сваю маму, знаходзіць яе па паху на задніх нагах; там ёсць асаблівыя залозы, якія гэты пах вылучаюць, — пах, адметны для кожнай асобіны. У парасятаў, бадай, прыроджаны калектывізм. Як толькі стаміўся адзін і хоча спачыць – тут жа ўладкоўваюцца спаць і ўсе астатнія. А калі нехта захацеў есці і пачаў сілкавацца — і ва ўсіх іншых адразу ж прачынаецца апетыт. І мамы, як па камандзе, кладуцца на бок – карміць "галодных".

Канец сакавіка дае адчуць, што на двары сапраўдная вясна. Снег, быццам рэшткі зімовага плацця, яшчэ бялее сям-там у лесе, але ў полі ярае сонца зганяе яго дарэшты.

## Красавік

У маім даўнім пушчанскім дзённіку за 1 красавіка чытаю: *"Пахмурна, цёпла (+12 апоўдні). Прыляцелі белыя буслы. Ноччу ўсё гудзе ад пералётных птушак"*.

Так, гэта ўжо красавік – дзівосны час года. Рух абуджэння пазначаны дэталямі, якія радуюць вока. Злева ад вальеры зацвітае *арэшнік*. На галінках шэрай *альхі* з'явіўся жоўта-зялёны пылок. А рашчэп на бярозавай кары прынадзіў салодкім сокам матылька-лімонніка.

З доўгай зімовай спячкі на свет божы выходзяць *земнаводныя*. Кола жыцця пушчанскіх жаб адвечнае і адметнае. Першымі ў Пушчы з'яўляюцца самавітыя і няспешныя *шэрыя жабы*. Знакаміты дацкі казачнік Андэрсан не так сабе назваў жабу зорачкай. Рэч у тым, што за іхнім агульным не надта прывабным выглядам тояцца на дзіва прывабныя і "поўныя разумення" вочы-зорачкі. Французы прысвяцілі вочкам жаб цэлую старонку сваёй энцыклапедыі! Разам з шэрымі выходзяць *бурыя жабы* і пачынаюць масавыя пераходы праз галоўную дарогу да Музея прыроды. Павел Міхалевіч, дырэктар Музея, пры жыцці назваў гэтае месца "далінай смерці". Кожную вясн[illegible] пад коламі аўтамабіляў гінула й гіне мноства жабаў. А вось на радзіме Андэрсана ў такі час робяць інакш: перакрываюць цэлыя дзялянкі дарог ці будуюць для жабаў падземныя пераходы. На шчасце, перыяд міграцый у амфібіяў кароткі.

працяг стар.14

SUMMARY

***W**ell-known for his interpretations, academic environmentalist Viktar Bacharau recounts the life of a forest in early Spring (March-April). His observations are picturesque and steeped in feeling.*



* знаёмцеся:
гадзюка (уверсе),
вераценніца ломкая (злева) і галава порсткай яшчаркі
Фота: Віктар Бахараў

са старонкі 13

Услед за земнаводнымі выходзяць *гадзюкі*. Асабліва любяць апоўдні пагрэцца на сухой траве Дакудаўскіх сенакосаў. У сасняках прачынаецца *вераценніца ломкая*. Людзі яе вельмі баяцца, думаючы, што гэта ядавітая гадзюка. На справе ж маем пакорліва-лагодную ціхую бязногую яшчарку. *На здымку* яна спрабуе палохаць, адчуваючы небяспеку.

На красавіцкае цяпло азваліся й пчолкі; пачынаецца першы пасля зімоўкі аблёт. Белавежская пушча ёсць месцам сталага жыхарства дзікай *лясной пчалы*. З незапомных часоў у Пушчы адным з промыслаў было бортніцтва. Дзесяць гадоў таму пушчанскі энтузіяст Фёдар Качко сабраў рэдкасную калекцыю пчаліных борцяў розных канструкцый. Бортніцтва лічылася ганаровым заняткам. А пушчанскі мёд быў усім даспадобы.

З кожным днём прырода набіраецца красы, дабіраючы гукаў і фарбаў. Прылятаюць *зяблікі*, *заранкі*. Раніцай можна пачуць кароткае "Уп! Уп! Уп!". Гэта песня *ўдода* – птушкі экзатычнай, з прыгожай каронаю пёраў на галаве. Жыхар пераважна паўднёвай Расіі, у Пушчы ўдод з'явіўся з прычыны пашырэння арэала як наступства глабальнага пацяплення клімату.

У трэцяй дэкадзе месяца можна пачуць *свірстуна лясного*. Песня яго характэрная і лёгка запамінаецца. Падымаючыся з галінкі, свірстун як бы вымаўляе: "Баюся! Баюся! Баюся!". Потым спускаецца на чарговае дрэва, з палёгкаю напяваючы: "Ніжай! Ніжай! Ніжай!".

Водар сасновага бору, здаецца, пацяплеў; ад размяклай зямлі ідзе дух прэлай ігліцы, кары, буякоў; вышэй, з разагрэтых камлёў цягне смалой. Пастаяўшы хвіліну, няцяжка ўхапіць і пахкі струменьчык блізкага журавінавага балота.

Ранкам ля возера Ляцкія пачынаюць трубіць *жураўлі*. Калі надарыцца пабачыць іх непаўторна мудрагелістыя танцавальныя "па" – лічы, прырода аддзячыла табе, адкрыла адну са сваіх прыгожых тайніцаў.

У вечаровым сутонні над галавой імкліва праляцяць *качкі*. Свіст крылаў і скінуты на зямлю зык птушынай душы пакіне на чалавека сваё адметнае ўражанне яшчэ адной сустрэчы з Прыродай. Ізноў цішыня. Ружова-малінавай фарбаю дагарае захад. Удалечыні, на той бок мяжы прагуў паравоз вузкакалейкі над Нараўкай. У цёмна-сінім небе пачуліся згукі, падобныя на хорканне, — гэта *слонка*! Вось і сапраўдная вясна прыйшла.



КОЛА CIRCLE

## Пушча – гэта ўся Беларусь

*Мінулы нумар газеты парадаваў мяне густоўным календаром Белавежскай пушчы, за што вельмі ўдзячны. Віктар Бахараў піша лёгка і вобразна, з замілаваннем увасклашае ў памяці бачанае і чутае, ім перажытае. Я рос на лясным хутары, далёка ад Белавежскай пушчы, у Лепельскай старонцы. Але ўсё, што чытаў, успрымаў вельмі блізка, з цёплым пачуццём роднасці.*

*Белавежская пушча — гэта ўся наша Беларусь. І газета ў гэтым сэнсе мае добрую назву, бо чым лепш будзем ведаць эталон, тым лепш. Я, напрыклад, магу сёння сведчыць, што той прыроды, якую я назіраў ў дзяцінстве, ужо няма. Не пазнаеш сваю радзіму. У тое, што засталося, душа адмаўляецца верыць... Трэба не толькі захаваць Пушчу, але не даць упасці астатнім лясам Беларусі, зберагчы нашы рэкі, азёры, балоты.*

*Калі мы прыйдзем у свой, калісьці магутны прыгожы лес, і не ўбачым там вячыстай яліны, выноснай сасны, не пачуем дзятла і не заўважым у кроне вавёрку, значыць, лічы, што і Белавежскай пушчы хутка канец...*

*А Віктару Бахараву хачу перадаць сяброўскі паклон і ўдзячнасць.*

**Іван Катлабай,**
*кіроўца з 30-гадовым стажам, былы сябра Таварыства аховы прыроды,*
Віцебск



Да чытачоў
*Шаноўныя сябры!*

Рэдакцыя мае надзею, што нават адзін асобны нумар, не кажучы пра пэўны "стаж" узаемных стасункаў, дае Вам падставу для адпаведнай высновы пра наша выданне, нашы нескарыстаныя магчымасці, станоўчыя набыткі і г.д. Калі Вы здольныя паверыць у нашу вялікую зацікаўленасць атрымаць ад Вас водгук, адкажыце на пытанні анкеты.

1. Чым завабіла Вас газета? З якіх крыніц даведаліся пра наша выданне (гартаючы падпісны каталог, купілі ў шапіку, пачулі па радыё, убачылі ў знаёмых і г.д.)?
2. Ваша ўражанне ад выпускаў, якія чыталі (калі можна, больш падрабязна).
3. Што не падабаецца ў газеце альбо варта змяніць, палепшыць?
4. Якія тэмы Вы хацелі б нам замовіць (падкажыце таксама адрасы ці людзей, якія добра валодаюць матэрыялам і маглі б быць нашымі аўтарамі)?
5. Пра сябе: якога Вы ўзросту, хто па прафесіі, чым захапляецеся, дзе жывяце (спадзяёмся, Ваш "аўтапартрэт" выйдзе за рамкі пашпартнага).
6. Ваша фота з альбома (пажадана на ўлонні прыроды).

Вы можаце адказаць не на ўсе, а на любое з пытанняў, якое вас зацікавіла. Чакаем лістоў.

ЗАГАДЗЯ Ў ДЗЯЧНЫЯ ВАМ.

* цецярукі на такавішчы: бывае, і пер'е ляціць
Фота: Аляксандр Казулін (Мінск)





К алекцыі

## Алфавіт як доказ біялагічнай разнастайнасці

Пра надзвычай багатую і разнастайную палітру прыроды можа бліскуча пасведчыць дзівосны свет матылькоў. Аднак фатограф аднаго з найбуйнейшых амерыканскіх прыродазнаўчых таварыстваў Кжыль Сандвід быў заінтрыгаваны хутчэй не палітрай, а літарамі на яркім убранні лёгкакрылых істотаў. Спачатку ён разгледзеў і сфатаграфаваў малюнак літары "F", а далей кожная



знаходка набліжала яго да запаветнай мэты: сабраць рэдкую калекцыю, у якой бы на фотаадлюстраваннях быў прадстаўлены ўвесь лацінскі алфавіт у выкананні прыроды. І гэта Кжылю Сандвіду хутка ўдалося. Дзякуючы бясконцым вандроўкам па Новай Гвінеі, Малайзіі і Бразіліі ён "стварыў" непаўторны крылаты алфавіт. *Крыніца: замежны друк*

З апрашальнік

## Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў мае сваю галерэю

Прырода і творчасць заўжды сябравалі, таму й аб'ядналіся ў назву галерэі. *"Рэч у тым,* — сказала ў інтэрв'ю "БП" метадыст цэнтра Іна Новік, — *што ў краіне назапашаны багаты досвед эколага-натуралістычнай дзейнасці дзяцей і падлеткаў. Гурткі, секцыі, студыі, клубы, навуковыя таварыствы, вучнёўскія вытворчыя брыгады, школьныя лясніцтвы... У кожным з гэтых аб'яднанняў ёсць месца творчасці. Дзеці працуюць на доследных дзялянках, прыахвочваюцца да навуковай працы, выпраўляюцца ў вандроўкі і экспедыцыі, ствараюць экалагічныя сцежкі, мікразаказнікі, вучацца народным рамёствам. Плён іхняй дзейнасці і знойдзе адлюстраванне на выставах галерэі. Удзел будуць браць лепшыя творчыя калектывы школ, пазашкольных установаў, асобныя педагогі і вучні, а таксама вядомыя беларускія майстры, якія ствараюць хараство разам з прыродай."*

Галерэя мае прасторнае, густоўна і багата аздобленае памяшканне ў двух узроўнях – падарунак Міністэрства адукацыі, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама абласнога і Мінскага гарадскога камітэтаў па экалогіі. На бліжэйшы час (красавік - чэрвень) галерэя "Прырода і творчасць" плануе паказаць дзве выставы – "Дзівосны свет першацветаў" і "Узнёслае і зямное". Тэл. цэнтра: 263-05-71, 264-50-70. *Уласная інфармацыя.*

А кцыі

## Вадохрышча – дзень абароны чыстай вады?

Акцыю ў абарону чысціні падземнай вады правялі жыхары райцэнтра Вад Ніжагародскай вобласці Расіі менавіта на *Вадохрышча* – хрысціянскае свята, калі асвячаюць у храмах ваду.

У глыбіні Вадскага возера схавана выйсце падземнай ракі. Плаціна, якая трымае ўзровень вады, тымчасам не дазваляе ачышчаць возера ад донных адкладаў. У рэшце рэшт, возера ператвараецца ў вялікую брудную лужыну. Галоўнай дзеяй акцыі было пагружэнне падводнікаў на глыбіню 17 метраў, да жэрала падводнай пячоры. Вярнуўшыся на паверхню, тыя з захапленнем распавялі прысутным, якая **там** празрыстая вада і як шмат бруду **тут** – на людскім пабытовым узроўні. Рэч у тым, што ваколіцы возера дужа засмечаныя, а адходы мясцовай вытворчасці складуюцца ў карставых шахтах. *"Падземныя воды – самае чыстае, што яшчэ засталося на зямлі",* — давёў землякам адзін з удзельнікаў падводнай экспедыцыі. *Паводле публікацыі ў газеце "Берагіня" (Расія).*

З ялёны фронт

## Актывісты руху дамагаюцца парламенцкіх слуханняў па ААПТ з іх шырокім удзелам

Не чакаючы палітычных зменаў, якія маюць адбыцца пасля 16 траўня, беларускія "зялёныя" рушылі на "ўладны Алімп" – у экалагічную камісію Палаты прадстаўнікоў з патрабаваннем правядзення неадкладных парламенцкіх слуханняў з удзелам грамадскіх арганізацый па праблеме асабліва ахоўных прыродных тэрыторыяў Беларусі ў звязку з дзеючым заканадаўствам і нарматыўнымі дакументамі.

Карэспандэнт зялёнага агенцтва звязаўся з бабруйчанінам Юрыем Познікам, ініцыятарам слуханняў, які прадстаўляе мясцовую экалагічную арганізацыю *"Ольса"*, каб ён падрабязна распавёў, як ідзе падрыхтоўка да запланаванай акцыі.

*"Перш-наперш, ініцыятыўная група сустрэлася з Марыяй Худой, намеснікам старшыні камісіі, каб давесці аб сваіх канкрэтных намерах,* — сказаў Юры. – *Марыя Мікалаеўна паабяцала падтрымку, але перасцерагла ад залішняй паспешлівасці і паверхоўнасці. Мы гэта ахвотна ўлічым. Аднак спяшацца трэба таму, што разбуральныя працэсы, на жаль, не спыняюцца, а набіраюць тэмп. У матэрыялах, якія пра гэта яскрава сведчаць, браку не будзе. Удзел у слуханнях замовілі шматлікія грамадскія арганізацыі, а таксама асобныя экалагісты, якія маюць на праблему свой пункт гледжання і займаюць актыўную пазіцыю, прадстаўнікі мас-медыя. Мы прапанавалі і дату слуханняў, якая зараз узгадняецца. Для нераўнадушных пакідаю тэлефон "Ольсы" ў Бабруйску (02251-7-24-05, пытацца Ігара Куталоўскага з 8.30 да 9.30)".*

Юры Познік нагадаў, што парламенцкія слуханні з удзелам грамадскіх арганізацый – практыка сусветна распаўсюджаная і цалкам адпавядае указу аб сацыяльным партнёрстве. А што да тэматыкі, якую прапануюць "зялёныя", дык сёння гэта надзённа ўдвая: ідзе інтэнсіўнае гаспадарчае асваенне ахоўных тэрыторый, а па-другое, заканатворцы збіраюцца "грунтоўна ўдасканаліць" Закон аб асабліва ахоўных тэрыторыях і аб`ектах". *Крыніца: агенцтва "Неруш-прэс".*



*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

К веткі раю

## Лекавая пучкоўка

Вясной, калі дрэвы яшчэ не распусціліся, збіраюць так званую "пучкоўку" – лекавы букет з пупышак 9 даступных дрэў: таполі, бярозы, ліпы, сасны, грушы, яблыні і інш. – у аднолькавых долях кожнага. Затым робяць настойку на спірце або гарэлцы (100 грамаў пупышак на паўлітра гарэлкі) ці адварваюць (на паўлітра вады сталовую лыжку пупышак). Пучкоўка дапамагае ад прастудных захворванняў, пры ангіне, болях у жываце і інш. П`юць настойку тройчы на дзень па 4-5 кропляў за гадзіну ці дзве да яды. *Крыніца: з досведу траўніцы Лідзіі Каскевіч (Масты)*

> ***Газета "Белавежская пушча" шчыра вітае сваіх новых падпісчыкаў і чытачоў і дзякуе ўсім, хто застаўся з намі, -- выпісвае, чытае і прапагандуе наша выданне.***
>
> ***Рэдакцыя.***

Р абунак

## Экалагічныя грошы хочуць згнаіць?

Небывала вялікая сума бюджэтнага фонду аховы навакольнага асяроддзя будзе сёлета пералічана беларускім калгасам, згодна з чарговым Указам прэзідэнта. Яна складзе 26 працэнтаў ад прыродаахоўных запасаў кожнага раёна, а гэта ў сярэднім два мільярды рублёў з мэтавага раённага фонду.

Згодна з дырэктывай, матывацыя "экалагічнага донарства" на карысць калектыўных гаспадарак гучыць так: "Долевы ўдзел у ачыстцы жывёлагадоўчых ферм, размешчаных у водаахоўных зонах паблізу рэк і вадаёмаў".

*"Такога рабунку ніколі яшчэ не было, хоць падобнае можна расцэньваць як правіла, а не выключэнне,* — сказаў у інтэрв`ю *БП* спецыяліст прыродаахоўвы абласнога рангу, які папрасіў не называць яго. – *Летась вялікія сумы гэтага фонду з ласкавай рукі прэзідэнта былі накіраваны БПСМу і тым жа калгасам. Да таго ж, я больш чым упэўнены, што экалагічныя грошы будуць у большасці выпадкаў скарыстаныя як каму захочацца."*

І гэта пры тым, што вялікая колькасць калгасаў маюць велізарную запазычанасць па экалагічнаму падатку за мінулы год. *Уласная інфармацыя.*

SUMMARY

*The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.*



## Мікразаказнікі ў горадзе. Не адно магчымыя, але й пажаданыя

*Газета шмат піша пра неабходнасць запаведання прыродных тэрыторый, дзялянак, аб'ектаў. А ці мае гэта якое дачыненне да гарадскіх паселішчаў? Напрыклад, ці можна стварыць мікразаказнік у Мінску, Баранавічах альбо ў маім родным Гомелі?*

***Сяргей Навічонак,***
*студэнт тэхнікума*

Чаму ж не? Іншая справа, што практыка такая не пашыраная, але яна мае пэўныя перспектывы. Вось думка эколага-педагога ***Яўгена Церахава:***

Ва ўмовах сучасных паселішчаў мікразаказнікі не толькі магчымыя, але й неабходныя. У вялікіх гарадах, напрыклад, іх колькасць можа сягаць сотняў тысяч і служыць захаванню і павышэнню біялагічнай разнастайнасці, перш-наперш раслін і птушак. Плошча іх не мае прынцыповага значэння, можа налічваць ад чатырох-пяці квадратных метраў. Шмат дзе ў гарадах такія сховішчы біяразнастайнасці ўзніклі як бы выпадкова. Бо домам для дзесяткаў відаў мошак можа служыць кампоставая куча, а для птушак – зарасці хмызоў і высокай травы. У прыватнасці, у Мінску пераважная большасць з 60 відаў птушак, што сялібу-юць у сталіцы, выводзяць птушанятаў на тэрыторыі Лошыцкага парку. Аднак "стыхійныя мікразаказнікі" маюць і недахопы. Недагледжаныя або закінутыя, яны часта выглядаюць непрывабна, ці з`яўляюцца прыстанкам розных адмоўных сацыяльных з`яў.

Праўда, гэта не ёсць вялікай перашкодай, каб паступова ператвараць іх у спрыяльныя прыродныя асяродкі. Дый наноў ствараць у горадзе кампазіцыі, якія б служылі захаванню біяразнастайнасці і адпавядалі эстэтычным запатрабаванням чалавека, зусім нескладана. Гэтага можна дамагчыся сама менш трыма шляхамі.

Для мошак можна скласці бурт з дробных галінак, кары, шчэпак і апалага лісця, агарадзіць яго дэкаратыўным плоцікам, а зверху накрыць драўлянай рашоткай, на якой будзе маляўніча абвівацца павой ці духмяны гарошак.

У месцах натуральнага сялібавання птушак трэба прыбраць усё смецце, прынесенае чалавекам, разам з ім і рэшткі старога, засохлага пустазелу й ламачча. Але пры гэтым варта захаваць старыя дуплістыя дрэвы, нават заапекавацца імі на выпадак "планавых" санітарных чыстак. Калі ў такіх месцах ёсць пешаходныя дарожкі, неабходна ўпарадкаваць іх, калі няма – пабудаваць у абход.Умовы для гнездавання птушак, такім чынам, захаваюцца, а чалавек адчуе душэўны камфорт.

Але найлепшым з гарадскіх мікразаказнікаў безумоўна з'яўляецца вялікая шматвідавая курціна. Яна складаецца з хмызоў розных біялагічных відаў. Вышыня раслін павялічваецца ад краёў да сярэдзіны. Калі такая выспа мае за 200 кв. метраў, у ёй пачынаюць сяліцца птушкі. Апроч усяго, такія кампазіцыі вельмі прыгожыя, не патрабуюць вялікага догляду і надзвычай эфектыўна ачышчаюць гарадское паветра.

Словам, мікразаказнікі ў горадзе не толькі магчымыя, але і вельмі пажаданыя. Што да іх мемарыяльнасці або іншага ахоўнага статусу, дык гэта ўжо залежыць ад кожнага асобнага выпадку. Несумненна, шмат якія асяродкі ўжо сёння вартыя адмысловай аховы. Не спазніцца б!

***Мы не атрымалі зямлю ў спадчыну ад сваіх продкаў -- мы ўзялі яе ў доўг у сваіх дзяцей.***
*Гэты крылаты выраз цалкам пасуе ідэі і зместу Дня зямлі, які штогод адзначаецца ў свеце **22 красавіка**. Сёлета гэта чацвер, а значыць, вялікая частка работ будзе перакладзена на выхадныя дні. Бог у помач!*
***Пасадзім Дрэва Надзеі!***

# Возьмемся разам

**Злучым памкненні з усёй планетай**
Адорым новым жыццём зямлю –
Поўнай вадою
Чыстым паветрам

**Злучым памкненні з усёй планетай**
Уздымем лясы
Захаваем расліны
Аслонім жывое

**Злучым памкненні з усёй планетай**
Праславім мора
Паклонімся полю
Зоркам хвалу праспяваем

**Злучым памкненні з усёй планетай**
Адродзім людскую еднасць
Мір·усталюем і згоду
Дзецям падорым вясёлку

**Злучым памкненні з усёй планетай**
Мноства абліччаў знітуем у шчырай любові
Возьмемся разам і ўлонне зямное
Заквеціцца ў долах і высях
вернецца ў сілу
агорае ўпадак
Зноўку паўстане!

*З праграмы*
***Сусветнага дня***
***абароны навакольнага асяроддзя,***
*якое праводзіцца*
*пад эгідай ААН*

Пераклад: **Валеры Дранчук**



## Даты экалагічнага календара

22 сакавіка
***Сусветны дзень вады***
23 сакавіка
***Сусветны метэаралагічны дзень***
1 красавіка
***Міжнародны дзень птушак***
22 красавіка
***Дзень зямлі***
26 красавіка
***Дзень чарнобыльскай трагедыі***

## нашыя словы!

*Вясна красна, вясна красна наступае,*
*Вадой лугі, вадой лугі залівае,*
*Што ні прайсці, што ні прайсці, ні праехаць,*
*Свайго роду, свайго роду не праведаць*
*Ой, вясною, ой, вясною — за вадою,*
*А ў лецечку, а ўлецечку — за жнівою,*
*А зімою, а зімою — за снягою.*
*—Дзіця ж мае, дзіця ж мае маладое,*
*Ты вясною, ты вясною — на чаўночку,*
*Ты ўлецечку, ты ў лецечку — ў нядзелечку,*
*А зімою, а зімою — ў палазочку —*
*Такі ж роду, такі ж роду праведай.*


*Фота: Валерый Дранчук*

## SUMMARY


***The articles in this section remind readers of a wonderful opportunity to take part in the worldwide ecological event for the sake of our planet's future.***



БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА
*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання пяты, 1999
* пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Марк Бэнс, Аляксандра Годзіна*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53
Аўтары маюць поўнае права называць рэчы сваімі імёнамі, гаварыць адкрытым тэкстам, але нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак
Газета надрукавана ў друкарні "Мэджык" (Мінск, вул. В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 12.03.99 Замова № 364
Кошт свабодны.

**"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Lowe To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency**

**"NERUSH-PRESS" Contact: 220088 Miensk Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76**